БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ТЭАТР.

# Сцэнічныя Творы

## Боты, Мікітаў Лапаць, Пакой у наймы, Чорт і Баба.

КНІЖКА ПЕРШАЯ.



ВЫДАВЕЦТВА Т-ВА „ПАГОНЯ“.
Вільня 1927.

Пераклад з украінскага.

# БОТЫ.

## Водэвіль з песьнямі і танцамі.

— дык не
іць. Вось н
агу яго в
до до

Асобы: 1. МАКСІМ ДРАТВА.
2. ГАННА, — яго жонка.
3. МАРКА ТРАЯК, — сьляпы на адно вока.
4. СЬВІСТУН, — Маскаль (жаўнер у адстаўцы).

---

### З ь я в а I.

**Сялянская хата. Шавецкі столік, за ім Дратва пяе.**

ДРАТВА. Ой ня сьпіцца не ляжыцца.
У сон мяне не бярэць,
Пашоў-бы я да дзяўчыны
Сам ня знаю дзе жывець.
Паслаў-бы я таварыша,
Бо ён знае дзе жыве,
Дык таварыш лепш за мяне,
Ён дзяўчынку адаб'е

(кідае працу).

Ня мела баба клопату, дык купіла парася! Вось так і я здурэў на старасьці, узяў і ажаніўся! Ды ў дадатак жонку ўзяў не па свайму розуму. Бо я, што сказана, просты мужык, шавец!

А яна змалку пры дварэ ў паноў служыла, дык навучылася ўсякіх панскіх выкрутолаў. А цяпер хоць гвалт крычы не магу з ёй даць ані якой рады!

Я кажу белае, а яна кажа чорнае, я кажу стрыжана, а яна кажа голена. Хоць ты яе зарэж, а яна такі на сваім паставіць. А да хлапцоў такая падкая, як муха да мёду. А якая хітрая, паляруш яе здрэнчыў-бы. Вось здаецца зламіў яе і нічога больш не астаецца, як толькі лупцуй колькі ўлезе — дык не! Яна і сама выкруціцца і свайго каханка выкруціць. Вось нядаўна прынадзіўся да яе маскалюга, але ніяк не магу яго выкурыць. Я з хаты, а ён у хату; хоць-бы што з яго было добрае, то жалю ня было-б. А то бацька яго быў вясковым пастухом і звалі яго проста Сьвістун, ён кажа ужо не Сьвістун, а Сьвістунаў, цьфу, крушч бярозавы.

І што тут выдумаць, каб гэтага Сьвістуна пазбавіцца? Не, мусіць калі ня поп, дык і не ўбірайся ў рызы. Трэба папрасіць кума Траяка. Ужо калі ён мне не паможа, то хоць сукай дратву ды вешайся на галінцы! Вось здаецца і кум Траяк ідзе.

### Зьява II. — (Дратва і Траяк).

ТРАЯК. (П'яны пьецъ.)
Ой ты мая гарэліца,
Ой ты весялушка,
Цераз усю мяне ночку
Мучыла сукрушка.

Няўжо-ж, то мне было лёгка
Цераз усю ночку;
Калі бачыў усё ўва сьне,
Парожную бочку.
Судзі Божа даждаць сьвята,
Тады павітаю
Загайкаю гаю, гаю...
Да запаклікаю.
Дзякуй Богу, што даждаўся,
Вось і папіваю.
Загайкаю гаю, гаю...
Ды запаклікаю.

(Б'ецъ рукой па плячы Дратвы). Здароў кум Максім!

ДРАТВА. Здароў кумок Марка!

ТРАЯК. Чаго ты так скрывіўся, як серада на пятніцу. Кажы праўду быў сягоньня ў Рэйзы?

ДРАТВА. Дзе мне да Рэйзы! Мне цяпер сьвет ня мілы.

ТРАЯК. Сьвет ня мілы, бо ня быў у Рэйзы... А як-бы ты выпіў адну, другую, дзесятую, то табе зразу зрабілася-б міла. Вось так як я... Мне цяпер сьвет вельмі мілы.

Пойдзем да Рэйзы (цягне за рукаво).

ДРАТВА. Дзе там кумок. Каб ты ведаў які ў мяне хлопат.

ТРАЯК. Які там у цябе хлопат? Можа Рэйза гарэлкі на павер не дае.

ДРАТВА. Папаў пальцам у неба. — Праз жонку! Найбольш у сьвеце бывае хлопату праз жонак. У цябе жонка, як жонка, а ў мяне ня жонка, а скула (пяе:)

У суседа хата бела,
У суседа жонка міла,
Жонка міла, невялічка,
Носіць жоўты чаравічкі.
Ўстае яна ранюсенька,
Прыбярэцца прыгожанька;
Жонка ў мяне пышна вельмі —
Да работы ня йдзе шэльма.
Толькі сьпіць, ды ляжыць;
Ды ня хоча рабіць.
Кажу сьнедаць — за лоб смыча,
Дай абедаць—хвігі тыча.
На вячэру кулакі
Усё тыча пад бакі,
А як ляжа яна спаці
Выганяе мяне з хаты.

А што добрая мая жонка?

ТРАЯК. Што твая! Твая яшчэ нічога. Яна хоць і недалэнга, але затое маладая ды прыгожая. А вось паслухай якая ў мяне жонка: (п я е)

Мая жонка знакаміта:
Задрыпана з заду сьвіта
І на ножку налягае
І на сьпіне горбік мае.
Гадка, брыдка, рудаброва,
А твар як кара дубова,
І згорбіцца, бо старая,
Ды сядзіць, як жаба тая.

А што, чыя лепшая жонка?

ДРАТВА. За тое ты ня маеш ніякага клопату. А я дык звар'яцею.

ТРАЯК. Якія-ж такія клопаты?

ДРАТВА. А вось сядайце кум, ды паслухайце. Вы ведаеце гэтага маскаля, фью! Сьвістуна?

ТРАЯК. Гэтага дурня?

ДРАТВА. Дзе там дурня! Ён разумней за нас дваіх.

ТРАЯК. Хіба так трудна выкурыць? Узяць яго за чуб, кулакамі пад бок, а каленам пад сьпіну дый выкінуць за дзьверы.

ДРАТВА. Калі ніяк не магу іх ні ў чым злавіць.

ТРАЯК. Калі так, дык ты дурань, у цябе двое вачэй, але нічога ня бачыў, а ў мяне хоць адно, але я нешта бачыў.

ДРАТВА. Што ты бачыў? што? кажы.

ТРАЯК. Ужо што бачыў, тое бачыў. А гэта што шыеш?

ДРАТВА. Божа — кажы, што ты бачыў?

ТРАЯК. А ці цэлые, ці прышвы?

ДРАТВА. Ды цэлые! Што ты бачыў кажы?

ТРАЯК. Ня будзь такі вельмі цікавы, бо хутка састарэіш.

ДРАТВА. Дык ці ты мне скажыш, што бачыў.

ТРАЯК. А якія яны зграбненькія! Вузенькія халявы і высокія абцасы.

Цацачкі! Вось каб мне гэтые боты: зараз бы я пашоў у іх лявоніху (б я р э ц ь  п а д  б а к і  і  п р ы т у п в а е).

ДРАТВА. Ну што, скажыш ці не?

ТРАЯК. А ты мне што за гэта дасі?

ДРАТВА. Скажу табе за гэта шчырае дзякуй.

ТРАЯК. Ну, цяпер за дзякуй ня робяць! Як дасі мне гэтыя боты, дык усё табе скажу. Прыпільную табе гэтага маскаля, злаўлю яго, зьвяжу, а тады рабі што хочаш.

ДРАТВА. Калі так, дык гэтыя боты твае.

ТРАЯК. Мае!?

ДРАТВА. Твае! (п а д а ю ц ь  р у к і) хоць я іх шыў для дзяка, але цяпер твае. Ну кажы, што ты бачыў.

ТРАЯК. Я бачыў, як твая жонка з Сьвістуном цалавалася.

ДРАТВА. Дзе-ж яны цалаваліся?

ТРАЯК. Вось тут! Сядзелі за сталом на лаве і цалаваліся — а я стаяў на дварэ і праз вакно ўсё бачыў.

ДРАТВА. Калі так, дык нічога не паможа: ты мне мусіш прыпільнаваць і злавіць.

ТРАЯК. Злаўлю! Ужо калі я каму што злаўлю, дык злаўлю (бярэць за боты).

ДРАТВА. Пачакай, іх трэба яшчэ выглянцаваць. А ты праз паўгадзінкі прыходзь і калі мяне ня будзе дома, дык бяры. Я іх во тут пастаўлю.

ТРАЯК. Тут, каля лаўкі?

ДРАТВА. Тут, каля лаўкі стаяць будуць.

ТРАЯК. Дык кажаш праз паўгадзіны і каля лаўкі.

ДРАТВА. Праз паўгадзіны і каля лаўкі.

ТРАЯК. Добра! Ну бывай здароў?

ДРАТВА. Бывай.

ТРАЯК. (выходзе прытопываючы).

Кучаравы Марка па кірмашу ходзіць,
Не купляе, не таргуе — сварку толькі водзіць.
Ах ты шэльма Марка сватай маю Дарку,
Куплю табе каўбасы і гарэлкі чарку.

**Зьява III. — Дратва (адзін).**

ДРАТВА. Ну цяпер гэты маскалюга ня вырвецца з маіх рук. Я яго скумячу, як скуру. Я яму шылам вочы выкалю. Капытом галаву рашчаплю. Але дзе-ж гэта мая шэльма? Цьфу! Кінула працу і пашла. Трэба ўдаваць перад ей быццам я нічога ня ведаю. Жонка, го-о! Няма! Трэба пашукаць яе, бо есьці так хочацца, што аж кішкі цягне (выходзіць)

**Зьява IV. — Ганна (адна).**

ГАННА (увайходзіць)

Чым я мужу не жана,
Чым не гаспадыня;
Сем дзён хаты не мяла,
Сьмецьця не насіла.
За што мяне мужык б'еш?
За якія ўчынкі?
Ціж я табе не напрала
За год тры пачынкі.
Адзін прала да Каляд,
Другі да Міколы;
А як трэці пачала,
Хоць і да Пакровы.

Вось як я служыла ў двары ў пані Пшэпюркоўскай, дык ніколі гэтай работы не рабіла. Маё дзела было толькі ў пакоях прыбраць ды каля пані круціцца.

А цяпер я зьехала на такую працу і хоць-бы было дзеля каго працаваць. А то стары, гідкі — ды да таго шавец яшчэ. Але ці-ж я каля старога ды не змогу любіць і маладога? Не здарма я ў паноў служыла ды нагледзелася розных дзіваў панскіх. Хоць-бы пані Пшэпюркоўская, і чалавека мела і сама была паганая, як тая ведзьма, а кахала маладзенькага вучыцеля, што каля дзяцей быў. Бывала памажа твар мукой і чырвоным бураком, а бровы сажай і прэць да вучыцеля зубы скаліць. Дык хіба-ж і мне ня можна другога любіць? Хіба мне сьвет ня мілы ці што? Але-ж і пакахала я! Маладзенькі, прыгожанькі ды да таго яшчэ жаўнер.

•

### Зьява V. — Дратва і Ганна.

ДРАТВА (За дзьвярмі). Жонка! Го-го!

ГАННА. Ужо мой злопузень мяне шукае. Пэўна пракляты Траяк яму расказаў, што я з ім цалавалася.

ДРАТВА. Жонка!

ГАННА. Чаго ты крычыш, як звар'яцеўшы.

ДРАТВА. А дзе ты?

ГАННА. Хіба ня чуеш што ў хаце.

ДРАТВА. Ай дзе-ж ты, была. Забавілася.

ГАННА. На дзіравым мосьце правалілася.

ДРАТВА. Які чорт цябе нёс на дзіравы мост. Трэба было ўхапіцца за сабачы хвост. Хаджу, хаджу, крычу, крычу...

ГАННА. Не разарвуся-ж я на двое. (Бярэцца за ручнік).

ДРАТВА. Давай вячэраць.

ГАННА. Ты толькі і робіш тое, што ясі.

ДРАТВА. А што гэта ты мыеш?

ГАННА. Спадніцу.

ДРАТВА. Якая-ж гэта спадніца, калі гэта ручнік.

ГАННА. Калі бачыш, што ручнік, дык нашто пытаеш?

ДРАТВА. Якая ты вельмі разумная. Дзе ты гэтага розуму набралася?

ГАННА. Ужо дзе набралася, дык набралася, але не ў цябе, бо яго ў цябе зусім няма.

ДРАТВА. Пачакай, яшчэ пабачым хто з нас разумны, а хто дурны.

ГАННА (ў бок). Ой ліха-ж маё! Пэўна пракляты Траяк яму усё чыста расказаў.

ДРАТВА. А што сёньня варыла?

ГАННА. Што дам, тое і будзеш есьці.

ДРАТВА (есьць). Капуста і каша! Што дня, дык усё капуста і каша! А калі бліны будуць?!

ГАННА. Тады, як наша ялавіца каровай стане.

ДРАТВА. Адна вада, дзе гушча?

ГАННА. Ой прычэпа за тры грошы. То кажа адна гушча, а цяпер — адна вада. Ніяк яму не дагодзіш.

ДРАТВА. Ты такі і праўда мне яшчэ не дагадзіла.

СЬВІСТУН (пяе пад вакнамі: „Три деревни, два села, восем дзевак адзін я“). Маё вам здраствуйце!

ГАННА. Пятрусь! Няшчасьце маё. Чаго ён цяпер прыйшоў.

ДРАТВА. Фью! Сьвістун. Чорт ужо прынёс яго.

СЬВІСТУН (за вакном). Что вы дзелаеце?

ДРАТВА. А хіба-ж ня бачыш, што — вячэраем.

СЬВІСТУН. Ды дзе-ж вы вячэраеце, калі ты з жонкай цалуешся.

ДРАТВА. На табе, цалуешся — я ем капусту, а ён кажа цалуешся.

СЬВІСТУН. Да что ты мне рассказываеш: ем капусту, калі я сам бачу, што ты цалуешся. Разве я ослеп что-ли?

ДРАТВА. А каб яны табе павылазілі.

СЬВІСТУН. „А вот опяць поцэловался“.

ДРАТВА. Ды ён здурэў, ці якога ліха. Дзе-ж я пацалаваўся?

СЬВІСТУН. Да если не веришь так ступай сам посмотри. Может быть это стекло такое, что мне кажется.

ГАННА. Гэта пэўна шкло такое. А ну — ідзі паглядзі.

## Зьява VI. — Ганна і Сьвістун.

ДРАТВА. А сапраўды трэба паглядзець, што гэта за шкло такое (выходзіць, а сьледам за ім уваходзіць Сьвістун).

СЬВІСТУН. Трояк ему все рассказал (сядае за стол, бярэ лыжку і цалуе Ганну). А што не мая праўда? Едзім борщч.

ДРАТВА (за вакном). Што ты робіш?

СЬВІСТУН. Ем борщч (зноў цалуе).

ДРАТВА. Брэшыш! Пусьці! Не цалуй маей жонкі!

СЬВІСТУН. Да разьве я целую. (Да Ганны) праўда, что мы емо борщч? (зноў цалуе).

ГАННА. А ўжо-ж, ядзём капусту.

ДРАТВА. Калі я сам бачу.

СЬВІСТУН. Это тебе только так кажется. Ступай сюда так і увідзіш. А, праўда, галубка, какой смачны борщч? (Цалуе ізноў).

ГАННА. Праўда, але такі смачны, што хочацца і яшчэ— трэба трохі падліць. (Увaходзіць Дратва).

**Зьява VII. — Ганна, Сьвістун і Дратва.**

ДРАТВА (каля парогу). Ядуць капусту! Далібог ядуць капусту. А-яб прысягнуў, што яны цалаваліся (заглядае ў міску). Поўную міску зьелі. Цьфу, згінь ты прападзі! Што гэта за мара такая?

СЬВІСТУН. Да я тебе сказывал, что это стекло такое.

ДРАТВА. Цяпер я ужо і сам бачу, што гэта шкло такое. Яны плямкаюць губамі, а мне здаецца што яны цалуюцца. Цяпер мне аж на душы лягчэй стала. Мусіць яны і тады елі капусту, як Траяк праз вакно глядзеў. І за што я пабяцаў яму боты? Не, ляпей я іх прап'ю, а маху ня дам (да Сьвістуна) Скажы мне праўду, ці ты часам да маей жонкі не таго...

СЬВІСТУН. Чего „того". Да как же як твоей жене того, когда другой чувствует к ней попеченіе.

ГАННА. Што такое?

СЬВІСТУН. Молчи!

ДРАТВА. Хто такі? Хто такі?

СЬВІСТУН. Да этот как его биш — сьлепой Трояк что — ли?

ГАННА. Што?

СЬВІСТУН. Молчи.

ДРАТВА. Траяк кажыш.

СЬВІСТУН. Да Трояк! По всему видно, что он около твоей жонкі тень наводзіт і всякую антімонію падпускаў?

ГАННА. І што гэта ён задумаў?

СЬВІСТУН. Молчи. Вот напрымерна третьего дня мы с ней сидели, да как-бы теперь елі борщч, а он стоял за окном да все да нея моргал.

ДРАТВА. Моргаў кажаш?

СЬВІСТУН. Аднім глазам, да так моргал, что я и двумя не сумею. Вот спроси жену, та тебе скажет.

ДРАТВА (да Ганны). Чаго-ж ты маўчыш?

ГАННА. Ну моргаў ужо.

ДРАТВА. А балей што?

ГАННА. Казаў, што ты стары і дурны, а я маладая і прыгожая.

СЬВІСТУН. А вот, вот...

ГАННА. А пасьля зайшоў у хату, абняў мяне і вот так пацалаваў. (Цалуе Сьвістуна).

ДРАТВА. Што робіш... Ну і што ты яму на гэта.

ГАННА. Узяла памяло і выгнала вось так, вось так з хаты. (Б'е Дратву).

СЬВІСТУН. Да пры том и я ему несколько ошэйников наклал. Вот поэтому он тепер к ней и ко мне злобу имеет и всякую клевету наводит.

ДРАТВА. А т'кі і праўда клевета.

СВІСТУН. А ты тоже хорош гусь. Поверил рудаку да понапрасно солдатскую честь задел.

ДРАТВА (кланяецца). Пане служывы, выбачай мне — як сказана, мужык цёмны, дурны.

СЬВІСТУН. Ты то. А теперича просі прошчэнія у своей жены. Ну двігайся, полуоборот направо.

ДРАТВА (кланяецца). Жонка, выбач мне.

ГАННА. Дурному і Бог прыказаў выбачаць.

ДРАТВА. Пан служывы, памажыце мне цяпер гэтага Траяка злавіць.

СЬВІСТУН. А ты мне за это что?

ДРАТВА. Дам вам, што захочаце.

СЬВІСТУН (Прыглядаючыся да ботаў). Как даш мне эти сапоги, так я подстерегу его, поймаю, и отдам тебе в руки, а тогда делай с ним, что угодно.

ДРАТВА. Добра — боты вашы.

СЬВІСТУН. Мае?

ДРАТВА. Вашы (б'юць па руках).

СЬВІСТУН. Вот мы сейчас их и обуем. (Абувае боты).

ДРАТВА. Ну, цяпер гэты сьляпы чорт ня выкруціцца з маіх рук! Я яшчэ другое вока вылуплю! Я яму пакажу як да чужых жонак хадзіць.

СЬВІСТУН. Вот сапоги, так сапоги (бярэцца пад бакі і тупае нагамі).

ДРАТВА. Ну цяпер пойдзем у карчму. Я пастаўлю вам барыша. Хоць грошаў і няма, прап'ю пояс, прап'ю сьвітку, а з добрым чалавекам п'ю.

СЬВІСТУН. Хорошо, идём!

ДРАТВА. Пойдзем. А ты жонка глядзі!...

СЬВІСТУН. Ну да, ідзем (выпіхае Дратву за дзьверы). Вот так! (Да Ганны) — А ты приготовь мне покушать (бярэ старые боты пад паху і выходзіць).

### Зьява VIII. (Ганна адна).

ГАННА. Ха-ха-ха!... Босы, дурны мой стары. Але такі дурны, што другога такога трэба са сьвечкай пашукаць. Ён запраўды паверыў, што гэта шкло такое!

Ха, ха, ха!... А маскаль хітры, о, хітры! Накпіў з яго і ўсю віну зваліў на Траяка! Але так яму й трэба! Няхай знае тое, дзе двое б'юцца, альбо кахаюцца, няхай трэці не мяшаецца. Ну, няхай Траяк не пападаецца майму старому ў рукі! (Уваходзіць Сьвістун).

### Зьява IX. (Ганна і Сьвістун).

СЬВІСТУН. А что, правда, я скора вернулся?

ГАННА. А стары мой?

СЬВІСТУН. Эгэ! За него оставь попечение, он не скоро вернется — прапіў шапку, прапіў пояс, прапіл сьвітку і пад стол паваліўся!

ГАННА. Няхай там сабе ляжыць на безгалоўе, ды на кароткі век. А мы с табой цяпер цэлы вечар будзем вольнымі, як птушкі. Цяпер нам ніхто не перашкодзіць у нашым каханьні.

СЬВІСТУН. Всё это хорошо, только песьнямі соловья не кормят. Ты прэждзе провиантам снабди, а пасьля уже будем балянрасы тачыць.

ГАННА. А што-ж мы будзем есьці? У мяне ёсьць капуста.

СЬВІСТУН. Да я уже наелся капусты, блины есть?

ГАННА. Ёсьць і бліны (ставіць на стол міску з блінамі).

СЬВІСТУН. А я прынёс водкі (ставіць на стол гарэлку).

ГАННА. Ну еш, — тут як раз для цябе цэлая капа.

СЬВІСТУН. Па ваеннаму артыкулу сперва нада выпіць. (Налівае). Я за твоё здоровье (п'е).

ГАННА. А я за тваё (п'е).

СЬВІСТУН. А я опять за тваё (п'е).

ГАННА. Я зноў за тваё (п'е).

СЬВІСТУН. А я ешче за тваё (п'е). Ну, что-же ты прызадумалась? Пей!

ГАННА. А ці ня многа гэта будзе?

СЬВІСТУН. Нет! Нет! (Ганна п'е). Вот так. Ну молодец молодица, черноброва, белалица!

ГАННА. А праўда, што такі маладзец?!

СЬВІСТУН. Верно, точно так! Ах, ты моя душенька! (налівае) Ну вып'ем еще по одной.

ГАННА. А як я буду п'яная.

СЬВІСТУН. Ничего будеш веселее, споеш мне что нибудь (Ганна п'е) Ах! ты моя чернобровка (абымае яе). Ну спой мне что нибудь.

ГАННА. Добра! (Бярэцца пад бокі прытопывае нагамі падыходзячы да Сьвістуна, каторы есьць бліны).

Захацела стара баба
Быці маладою,
Наўтыкала за намітку
Руты зеляное.

Рута мая, рута
Рута зеляненька!
А думала, што я стара,
А я маладзенька.

Пасадзіла стара баба
На трох яйцах гусака,
Сама вышла на вуліцу
І ўдарыла трапака.

Сядзі, сядзі гусаку
І высядзі гусі,
А я пайду падзіўлюся
На чорныя вусы!

Ну цяпер ты мне засьпявай.

СЬВІСТУН. Чего-ж можна! (*Адкашліваецца, бярэцца пад бакі і скача каля Ганны*).

Из вначаль, да впервый раз
Изучал я „буки аз“.
Барыня, барыня!
Графиня сударыня!
Оттянули книги руки;
Не хочу учить я „буки“.
Барыня, барыня,
Графиня сударыня!
Не хочу я денег, меди,
Не хочу учить я „веди“.
Барыня, барыня!
Графиня сударыня!
Пономарчык мой сакольчык,
Не хочу учыть „глагольчик“.
Барыня, барыня!
Графиня сударыня.

ДРАТВА. (*За дзьверамі*). Адчыні! Жонка!

ГАННА. Ліха-ж маё.

ДРАТВА. (*За дзьверамі*). Ці чуешь! Гэй! Адчыні.

СЬВІСТУН. Вот так попался!

ГАННА. Бедная мая-ж галоўка! Што-ж я цяпер буду рабіць?!

ДРАТВА. (*За дзьверамі*). Ці чуеш! Я зара дзьверы буду ламаць!

ГАННА. Чую ўжо, чую! Зараз (*да Сьвістуна*). Скарэй хавайся.

СЬВІСТУН. Куды?

ГАННА. Сюды — пад лаву.

СЬВІСТУН. А есьли он меня найдет?

ДРАТВА. (*За дзьверамі*). Пусьці, бо зара дзьверы выламаю! (*б‘е кулаком у дзьверы*).

ГАННА. Зараз-жа (*да Сьвістуна*). Лезь скарэй! (*Сьвістун лезе пад лаву*). (*Ганна адчыняе дзьверы, уваходзіць п'яны Дратва бяз шапкі, пояса і сьвіткі*).

### Зьява X. Тыя - ж і Дратва.

ГАННА. (Да Дратвы). А дзе шапка? Дзе пояс? Дзе сьвітка?

ДРАТВА. А дзе ён?

ГАННА. Я цябе пытаю дзе, шапка, дзе пояс, дзе сьвітка? дзе пояс?

ДРАТВА. А я цябе пытаю дзе ён?

ГАННА. Няма тут нікога! Ах ты п'яніца. У хаце няма хлеба, німа солі, а ты ў карчму ходзіш п'янстваваць. Я табе кудлы абарву! (бярэ яго за чупрыну і б'е кулаком).

ДРАТВА. Ці ты бі, ці ня бі, я яго ўсё раўно знайду (шукае па хаце).

ГАННА. Куды ты лезеш?! Там нікога няма.

ДРАТВА. (Нагінаецца і глядзіць пад лаўку). А гэта што?! Дзе кій, дзе качалка?! (лётае па хаце і шукае). Няма пачакай, трасца тваей мацеры. Я зараз знайду і выламаю з плоту ламаку (ідзе да дзьвярей).

СЬВІСТУН. (З-пад лаўкі) Дело табак!

ДРАТВА. (Ворочаецца ад дзьвярэй). Уцячэ чортова насеньне! Трэба яго прывязаць да лавы (бярэ аборыну і прывязывае за ногі да лавы Сьвістуна) Цяпер ужо ня вырвецца з маіх рук! Пачакай я зараз прынясу табе гасьцінца. (Выходзіць).

### Зьява XI. Ганна і Сьвістун.

СЬВІСТУН (з-пад лаўкі). Ну брат Сьвістунов теперь ляфа.

ГАННА. Уцякай скарэй.

СЬВІСТУН (з-пад лаўкі). Да как же я вцеку, когда я привязан?

ГАННА. Скідай боты, і ўцякай! Жыва! Бо ён зараз прыдзе з палкай. (Сьвістун скідае боты, так што яны, астаюцца прывязанымі да лавы, а сам бяжыць да дзьвярэй).

ГАННА. Куды ты?! Уцякай праз вакно (Сьвістун уцякае праз вакно, уваходзіць п'яны Траяк).

### Зьява XII. Траяк.

ТРАЯК. Сказаў, што боты будуць і боты ёсьць, як раз каля лавы. Люблю кума, што слова трымае (скідае свае боты і ўзьдзявае, што прывязаны).

ГАННА. Пачакай, будуць табе боты.

(Выкідае яго боты за вакно).

ТРАЯК. О гэта боты, дык боты, зараз пайду ў іх скакаць (пяе).

Ой пайду я да ў клець па муку.
Там віселі ботачкі на калку.
Ой-жа боты, ды боты вы мае.
Шмат хлапотаў нарабілі вы мне, (2 разы).

Гэта-ж тыя боты зяць даў,
Я за гэты боты дочку ўзяў.
Ой-жа боты, ды боты вы мае,
Шмат хлапотаў нарабілі вы мне.

ГАННА. Будуць ужо табе боты.

ТРАЯК. Як здарова мая галубка? А дзе твой стары?

ГАННА. Пайшоў гасьцінца табе прынесьці.

ТРАЯК. Ох якая-ж ты прыгожая, ды чарнабровая! Я цябе вельмі люблю.

А хто любіць грыбы, грыбы,
А я печарыцы,
А хто любіць дзеўкі, дзеўкі,
А я маладзіцы. (Абнімае яе).

А хто любіць гарбуз, гарбуз,
А я люблю дыню,
А хто любіць гаспадара,
А я гаспадыню.

(Уваходзіць Дратва з кіям).

**Зьява XIII. Тыя-ж і Дратва.**

ДРАТВА (каля дзьвярэй). Ужо вылязь!

ТРАЯК. Як жывеш кум Максім? Дзякую за боты!

ДРАТВА. Я табе дам боты!

(Замахіваецца на яго кіям, зчапляюцца біцца валяюцца на зямлі, валтузяцца. Уваходзіць Свістун).

**Зьява XIV. Тыя-ж і Сьвістун.**

СЬВІСТУН. Что за крик? Что за шум? Так его! Лучше! Пускай-же не в свое дело не мешается! (Да Ганны). Правда, моя красавица?

ГАННА. А ўжо праўда!

Заслона.

---

М. Кудзелька.

# МІКІТАЎ ЛАПАЦЬ.

(Камэдыя ў II-х актах).

На рукапісным экзэмпляры напісана:

Widziano w Starostwie Mołodeczańskiem, dn. 26.II 27 r.
(—) Starosta (подпіс нячытальны).М. П.



Асобы: ЯЎМЕНЬ — селянін.
ГРЫПІНА — яго жонка
ЗОСЬКА — іх дачка 19 гад.
ДАР'Я — іх суседка.
САЎКА — яе сын 22 г.
МІКІТА



## АКТ І.

### Двор — абапал хаты. За вуліцай садок.

#### Зьява I. — Дар'я (адна).

ДАР'Я. (З аўсом у прыпале кліча курэй). Ціп! ціп! ціп! ціп! Дзе-ж яны падзеліся? Каб часам узноў не пашлі нясьціся ў суседаву крапіву. Вось бяда з курамі! Бадай на іх каршун! Ціп! ціп! ціп! Кур! Кур! Кур! Ня дарма, мусіць, людзі кажуць, што суседзі нешта ведаюць, што ў іх ня то свае куры нясуцца ў хаце, але чужыя прыходзяць нясьціся.

#### Зьява II. — Дар'я — Грыпіна.

ГРЫПІНА. (Праз вакно). Каб ты ня ведала ні сьвятых каляд, ні асеньніх дзядоў, калі я што-небудзь гэта паганае ведаю, і калі ў мяне чужыя куры нясуцца. Вось ты так праўда, што кожную раніцу аўсом, ды ячмянём прынаджваеш да сябе чужых курэй! Выдра ты! Пляткарка! Шкада сьвятой серады, а то аблаяла-б як суку.

ДАР'Я. Суседачка! Я-ж на вас нічога дрэннага не кажу. Што ў вашай крапіве мае куры нясьліся — гэта праўда, твой мужык Яўмень ня дасьць маніць... Алеж-я не кажу, што вы іх бралі!... Няхай мяне пярун заб'е калі я дарэмна на каго выдзіраю. А калі яйцы мае прападалі, мо' іх ела ваша сучка.

ГРЫПІНА. Сама ты сучка! Гадаўка! Цьфу! Гаварыць з табой не хачу! (Зачыняе вакно).

#### Зьява III. — Дар'я (адна).

ДАР'Я. Не разумею чаго яна да мяне чэпіцца кожны дзень.

#### Зьява IV. — Дар'я — Саўка.

САЎКА. (Выходзіць з хаты). Мама! Навошта вам сварыцца з суседзямі?

ДАР'Я. Мой сынок! Ці-ж гэта я? Гэта-ж яна першая пачала.

САЎКА. Яна пачынае, а вы ўзялі ды пайшлі-бы ў хату; што людзі скажуць, чуючы што-дзень сварку на нашым двары?

ДАР'Я. Гэтак, то гэтак... Але чаго-ж яна да мяне лезе заўсёды?...

САЎКА. Няўжо-ж не разумееце за што, ўсё за тое.

ДАР'Я. Што дачкі ня хоча за цябе аддаць? Мы-ж сілком не бяром... Чаго сварыцца... Захочаш жаніцца, дык такое дабро знойдзеш.

САЎКА. Не кажыце гэтак, бо Зоська мяне ўсёй душою любіць... і бацька згаджаецца; вось толькі маці ніяк...

ДАР'Я. І ліханька яе бяры... Але не дажджэ яна! Я ёй такую штуку падстрою, такога вараб'я падпушчу, што яна сама прыдзе маей ласкі прасіць. Вось пабачыш... Здохну я, калі ёй не адцзякую за яе сварку!... Лахта гэта! Як пачнецца раніца — і пачынае лахтаць языком як траплом! Сутрымаеш язык, пачакай толькі! (Ідзе ў хату).

### Зьява V. — Саўка (адзін).

САЎКА. (Зьнімаючы касу са сьцяны). Эх, бяда з гэтымі старымі... Ніяк не паладзяцца! Ня тое, дык тое. Не за курыцу, дык за яйцы, а усё сварацца. Ніяк іх пагадзіць ня можна. Ня ведаю, што даўбы, каб толькі яны жылі ў згодзе... Мо' хутчэй Зоська была-б маёю. Гэтак я яе страшэнна кахаю... Дзе ня йду, а ўсё аб ей думаю. (Уздыхае).

### Зьява VI. — Саўка — Грыпіна.

ГРЫПІНА. (Уваходзіць) Аб кім гэта, пане дабрадзею, думаеш?

САЎКА. Ды вось думаю як-бы сенажаць хутчэй касіць скончыць. А цяпер пайду ў садок цялятам травы выкашу.

ГРЫПІНА. Аб сенажаці думай сколькі сабе хочаш, а вось аб Зосьцы кінь думаць... Ня раз казала, і цяперь кажу, што яна табе ня пара... За такога як ты, я яе ня выдам; няхай лепш у дзеўках сядзіць... Што ў цябе ёсьць? Зямлі кавалак ды хата небам крытая!...

САЎКА. Мне здаецца, цётачка, што лепш выйсьці за беднага, калі яго кахаеш, чым за багатага, ды ня любага...

ГРЫПІНА. Што з твайго каханьня: спадніцу пашыешь, ці хлеб есьці будзеш? Лепш Бога не грашы і людзей не сьмяшы, хлапец! Шукай сабе такую, які сам, ды жаніся, а на Зоську не спадзявайся, бо нічога ня будзе... Знайшоў каго пакахаць?! (Ідзе ў хату).

### Зьява VII.

САЎКА. Ці я вінават, што яе кахаю... Мо-б я і не хацеў кахаць, але сэрца!... А што я бяднейшы за яе... і тут ня вінен... Эх! Як гэтыя старыя ня могуць зразумець нас, маладых... Няўжо ў свой час ім ня прыходзілася кахацца і гэтак хварэць, як хварэю я, не... мусіць не... бо каб ведалі яны, як гэта цяжка... Эх! Убогасьць усяму віна. Але Зоська!? Яна шчыра кахае, ня гледзячы, што я бедны... Бацька дакляруе нават дапамагчы чым колечы, а маці і гаварыць ня хоча...

### Зьява VIII. — Саўка і Зоська.

ЗОСЬКА. (Бягучы з вуліцы). Ой, вой! вой! вой! Савачка барані мяне... (Мікіта паказваецца з за вугла і хаваецца).

САЎКА. Што! Што такое?

ЗОСЬКА. Вой утамілася. Гэта-ж той дурань гнаўся за мною.

САЎКА. Хто? Які дурань?

ЗОСЬКА. Які дурань! Адзін-жа ў нас дурань — Мікіта.

САЎКА. (Сьмяецца). А бадай цябе! І ты яго спалохалася?

ЗОСЬКА. Заўсёды за мной гоніцца, кажа — кахаю цябе, жыць бяз цябе не магу.

САЎКА. Ну, значыцца кахае...

ЗОСЬКА. (Злосна). Ідзі ты вон разам з ім!... Як да нас прыходзіць, я да хаты ўцякаю, альбо яго качаргою ганю вон... Ты заступіся за мяне.

САЎКА. Ну добра, заступлюся.

ЗОСЬКА. А ці сёньня мацеркі нашы не сварыліся?

САЎКА. Як-жа... яшчэ як.

ЗОСЬКА. За вошта?

САЎКА. За курэй... Эх, Зоська! Нешчасьлівыя мы з табою. Ня быць, мусіць, таму, аб чым мы так часта гутарым.

ЗОСЬКА. Ня сумуй Савачка! Прыдзе шчасьлівая хвіліна — мацеркі нашы погодзяцца і мы злучымся на заўсёды... А пакуль што кахаймася і ня траціма надзеі, што і наша зорка засьвеціць ясьней на небе і ўзьвядзе нас на адну сьцежку, якой і будзем ісьці з табою ўсё жыцьцё. (У гэты час Мікіта праходзіць па вуліцы, хаваецца за вугал і слухае). Мо' хто-небудзь пагодзіць нашых мацерак.

САЎКА. Зоська! Я не счакаю той гадзіны...

ЗОСЬКА. Э-э! Счакаешь! не памрэш! (Мікіта пераходзіць за 2-гі вугал, бліжэй). А куды ты касіць пойдзеш?

САЎКА. Пайду ў садок, выкашу трохі, пакуль сонца не пячэ, бо тады за вашымі пчоламі ня можна падайсьці.

ЗОСЬКА. Ну добра! Ты ідзі касіць, а я пайду табе бліноў прынясу.

САУКА. Што ты, Зоська!

ЗОСЬКА. Гэта не тваё дзела! Калі я кажу, так і трэба. Я хутка. (Пашла ў хату).

САЎКА. (Паглядзеўшы ў сьлед). Ну і Зоська! Бяз яе мне жыцьця ня будзе! Эх, доля, доля! Чаму я такім радзіўся! (Пашоў у садок).

## Зьява IX. — Мікіта (адзін).

МІКІТА (Падбягаючы пад дзьверы). Ага! Не злавіў! А то, даль-бог пацалаваў-бы! Вось толькі лапаць развязаўся, ганяючыся за ёю (садзіцца на лаўку і абувае лапаць). А спрытная дзяўчына, як наша цялушка; толькі хвастом не махае, а бяжыць таксама, што дагнаць ня можна. І чаму яна мяне ня любіць? Перш казала: Люблю. Нават і яблыкі ей даваў, дык не хацела браць, кажа: лепш сам еш, я цябе шкадую... А цяпер ні прыступу, як малады конь да аглобляў. Вось дык Зоська. Зоська! (Чухае патыліцу). Трэба пачакаць мо' хутка будзе бліны нясьці Саўку, хоць пабачу — і то лягчэй будзе. (Лажыцца на лаўку). Каб толькі яна Саўку не пакахала. Але-ж кажуць людзі, што мяне — значыць, мяне (пяе) значыць мяне...

(Пяе) А ў полі жыта расьце з каласамі.
Пакахала Мікіту яна з кутасамі.

Здаецца ідзе (маўчыць) (Зося з блінамі ідзе ў садок. Мікіта ўстаўшы). Пайду за кусты схавацца, як пачне Саўка бліны есьці, я зьненацку—як крыкну! (крычыць). Ен спужаецца і блінамі ўдавіцца, а мне Зоська застанецца (пяе): застанецца (пашоў у садок).

## Зьява X. — Дар'я (адна).

ДАР'Я (выйшла). Што гэтак сёньня доўга Яўменя няма з поля... Зарабіўся!... Трэба яму нагаварыць хоць няпраўды, каб яе трохі аддубасіў, няхай ведае, як добра слухаць няпраўду... каб хутчай ён толькі ехаў. Пабачым, хто перад кім паклоніцца... Паскуда гэтакая. Брахуха (пайшла ў хату).

### Зьява XI. — Зоська адна.

ЗОСЬКА (бяжыць баронючыся ад пчол, і раскідае бліны). А няхай вас ліха! Вой! Вой! У валасы ці што забіліся... Мёд смачны, але моцна кусаюцца і бліноў не данясла Саўку, а ён будзе чакаць (бяжыць у хату).

### Зьява XII. — Мікіта (адзін).

МІКІТА (ідзе ззаду, падымае бліны, есьць напяваючы). Смачныя бліны. Смачныя бліны! Бось яшчэ адзін. Якія смачныя бліны пячэ Зоська! А я яшчэ ня сьнедаў сёненька. Вось падвязло. (Пяе). Смачныя бліны! Смачныя бліны! Смачныя бліны! (углядаецца) Здаецца бацька яе йдзе з поля! Трэ ўцякаць, (пяе) смачныя бліны (уцякае).

### Зьява XIII. — Яўмень — Дар'я.

ЯЎМЕНЬ (з пугаю). Во пячэ! Як у чалесьніках! Трасца яму ў бок!

ДАР'Я (выйшла). Дзень добры, суседзе!

ЯЎМЕНЬ. Добры дзень!

ДАР'Я. Я-ж кажу, што зранку пачало так пячы, каб дождж, часамі, не пайшоў. І замарыліся, відаць?

ЯЎМЕНЬ. А ўжо-ж! Замарыўся, трасца яму ў бок! Хлапца не наняў, самаму прыходзіцца і за сахой, і за бараной, і за канём, і за ўсякаю паветраю цягацца, трасца яму ў бок! Ніколі ў хаце ня бываеш.

ДАР'Я. А гэта і дрэнна што ў хаце ня бываеце.

ЯЎМЕНЬ. А хто-ж кажа, што добра! Ведама дрэнна, трасца яму ў бок!

ДАР'Я. Я-ж кажу, што чалавек за працаю ніколі ў хаце ня бывае, а людзі чорт ведае што гавораць.

ЯЎМЕНЬ. Што-ж яны гавораць, трасца ім у бок? Што я гультай?

ДАР'Я. Ды не, але лепш аб гэтым не казаць.

ЯЎМЕНЬ. Што-ж такое?

ДАР'Я Кажу лепш не казаць.

ЯЎМЕНЬ. Зацікавіла, трасца яму ў бок, і казаць ня хочаш, кажы, я злавацца ня буду!

ДАР'Я. Баюся казаць, каб дрэннага чаго ня вышла... Мо гэта йшчэ няпраўда.

ЯЎМЕНЬ. Ну, дык кажы, трасца табе ў бок!

ДАР'Я. Ну, калі так прыстаеш, то ня гневайся і слухай. Кажуць людзі--мо йшчэ гэта няпраўда — што як сам бываеш ў полі, працуеш, то да жонкі госьці ходзяць... частуюцца.

ЯЎМЕНЬ. Трасца табе ў бок, ад каго ты чула?

ДАР'Я. Гэта я табе не скажу, але яшчэ раз кажу, што можа ўсе маняць. Пакуль сам не пераканаешся, маўчы лепш: мала што людзі кажуць!

ЯЎМЕНЬ. Я буду маўчаць, трасца ёй ў бок! Яна тут п'янствуе, ды яшчэ што вырабляе! Я бачу, што апошнія дні асою у вочы пачала кідацца! Вось гэтым траўпачом пацягну разоў колькі, дык не захоча мяне больш ашуківаць, трасца ей у бок! Бачыў ты яе?! (Пайшоў за дзьверы).

**Зьява XIV. — Дар'я (адна).**

ДАР'Я. Вось і ўдалося! Няхай-жа ведае, як няпраўду казаць. Мо' трохі памягчэе, а то ня прыступіцца. Ён ёй накажа: Яўменя я добра ведаю. (Слухае).

ЯЎМЕНЬ (чуваць за дзьвярыма). Што? трасца табе ў бок!

ДАР'Я. Дастанецца ёй за курэй! Пугаўё добрае мае! Будзе ведаць, як з суседзямі трэба жыць. (Пайшла ў хату).

**Зьява XV. — Мікіта (адзін).**

МІКІТА. Няма нікога (аглядываецца) жадаў, каб Саўка бліном падавіўся, ажно сам чуць не ўдавіўся ўцякаючы! Але бліны смачныя! Трэба яшчэ паляжаць, мо' вынясе болей. (Лажыцца на лаўку і пяе). Вынясі Зоська, бліноў яшчэ болей, у садку цябе Саўка чакае. (Сьмяецца).

ЯЎМЕНЬ. (Чуваць у хаце крык). Гэта падзяка за маю шчырую праўду? Вон з хаты!

МІКІТА. Вой, дзе мне дзявацца! А мо' ня ўбачаць! (Выцягнуўся на ўсю лаўку).

ЯЎМЕНЬ. Каб і нага твая тут ня была, вон! Трасца табе ў бок!

МІКІТА.(кідаецца на лаўцы, і лезе пад лаўку) Вось тут! Можа ня знайдуць. Чаго гэта Яўмень расхадзіўся? (Пяе) Вынясі Зоська бліноў, яшчэ болей. У садку Саўка чакае. (Далей хаваецца).

**Зьява XVI. — Яўмень — Грыпіна — Зоська — Мікіта.**

ГРЫПІНА (бяжыць, за ёю Яўмень з пугаю, за ім Зоська).

ЯЎМЕНЬ. Сорам на сьвет паказацца будзе!

ГРЫПІНА. Яўменька! Даражэнькі, паслухай!

ЗОСЬКА. Татачка, гэта няпраўда. (Дар'я пазірае у вакно і сьмяецца).

ЯЎМЕНЬ. Я табе пакажу, як зьдзекі з мяне строіць, трасца табе ў бок! Вон з двара, каб і вочы мае ня бачылі, калі ты гэткая!

ГРЫПІНА. Слухай-жа, дурны!

ЯЎМЕНЬ. Слухаць не хачу! Я вось табе вывяду твой розум, трасца табе ў бок!

ГРЫПІНА. Не баюся я цябе, дурань! (Бяжыць пад лаўку).

ЗОСЬКА. Ай татачка!

ЯЎМЕНЬ. Дык ты вось як, трасца табе ў бок! (Сьцёгае раз пугай па лаўцы).

МІКІТА. Вой! Вой! Вой! Залавіў па пальцы (ліжа палец).

ГРЫПІНА. Ну, бі болей, бі болей!

ЯЎМЕНЬ. Трасца табе ў бок! (Хвошча па лаўцы).

ЗОСЬКА. (крычыць). Ой татачка! Ня біце!

ГРЫПІНА. Ай, яй, яй.

МІКІТА. (крычыць пад лаўкай) Вой! Вой! Вой! Ратуйце! (Кідаецца Яўменю пад ногі, зьбівае з ног і ўцякае).

ЯЎМЕНЬ. (Валючыся крычыць). Трасца табе ў бок! (Мікіта паўзе.)

ЗАСЛОНА.

## АКТ II.

**Тая самая дэкорацыя, на лаўцы сядзяць і гутараць Грып. і Дар'я.**

### Зьява I. — Грыпіна — Дар'я.

ГРЫПІНА. Не хачу клясьціся сьвятою нядзелькаю! Самі бачыце, што дарэмна на мяне наваліўся... і гэтак зьбіў, што яшчэ не магу да плячэй дакрануцца... каб я калі, каму што якое,—а то я ніколі, нікому, нічога! А каб я калі каму што якое, дык што там такое! Ды ці-ж бы вы, суседачка, ня бачылі па суседству жывучы, каб хто да мяне хадзіў. Але ўсё благія языкі.

ДАР'Я. Я-ж кажу—языкі... але... але. Сёньня спаткалася з Яўменям, і ўчора нават, казала яму, што ня слухай людзей, бо людзі—чэрці, так і мяркуюць, каб зьвясьці каго небудзь.

ГРЫПІНА. Дзякую, дзякую табе... я бачу, што ён памякчэў крыху, мусіць ад таго, што вы яму гаварылі аба мне.

ДАР'Я. Я-ж кажу... гаварыла, ня верыць усякай брыдзе.

ГРЫПІНА. Ён увесь час цяпер зходзіць з дому, а потым раптам зьяўляецца, каб каго застаць... Бачыце вы самі, ці-ж я даслужыла гэтага, каб цікаваці... і цяпер кудысь выйшаў з дому, Ох, Божа, Божа.

ДАР'Я. Я-ж кажу што зрабіць. Пацікуе, пацікуе, нікога ня ўбачыць, дасьць веры, што мана ўсё, шчэ перапросіць. Я яму ўжо казала, каб хутчэй перапрасіў вас, бо ўсё што ён чуў—выдзірка людзкая.

ГРЫПІНА. Ён то перапросіць, але сінякі, што парабіў пугаю, ад гэтага ня згояцца.

ДАР'Я. Я-ж кажу, трэба цярпець.

ГРЫПІНА. Ды ўжо-ж буду цярпець... Няхай таму Бог аддасьць, праз каго ён біў мяне.

ДАР'Я. Я-ж кажу, і клясьці ня трэба... пагояцца.

ГРЫПІНА (устае). Эх, эх! А дзе-ж ваш Саўка?

ДАР'Я. У хаце сядзіць.

ГРЫПІНА. І Зоська адна ў хаце. Чаму-ж ён ня прыдзе да яе пабавіцца. Які-ж з яго хлапец?

Ідзеце, кажыце, кажыце няхай ідзе да яе.

А вам дзякуй, што хоць вы майго дурня ўгаварваеце... Ён вам дае веры... Ды пайду і я ў хату (пайшла).

**Зьява II. — Дар'я (адна).**

ДАР'Я (ідучы ў хату). Ну вось і ўдалося! Бач, якая мягкая стала, хоць к хвораму мейсцу кладзі. А то нос вышэй коміна насіла! Ага! Як у бяду ўпадзеш, Кузьму бацькам назавеш. Толькі хутчэй іх сусім згодзіць, мо-б тагды і Зоська з Саўкам пабраліся. А то ўсё хванабэрыю нейкую строіла, але вось за гэту хванабэрыю чухай цяпер плечы (пашла).

**Зьява III.—Мікіта (адзін).**

МІКІТА (праходзючы па вуліцы пяе й пазірае ўдвор). На вуліцы туманец, дзеўка не цягайся. Хлопец зловіць, пацалуець, нікому ня жалься. (Пайшоў).

**Зьява IV. — Зоська (адна).**

ЗОСЬКА (праз вакно). Эх, як хараша на дварэ! Хлопцы й дзяўчаты на сяле гуляюць, а мне так сумна, што гэта нядзелька здаецца буднім днём. І Саўка так-сама сумненькі! І хто нам дапаможа ў нашым каханьні, хто паможа злучыцца на заўсёды.

**Зьява V. — Саўка — Зоська.**

САЎКА (выходзіць з хаты). У сьвята шчэ горш на сэрцы робіцца. У будні дзень працуеш, дык аб усім забываешся.

ЗОСЬКА. Саўка!

САЎКА. Чаго? Ага! Яй ня бачу!

ЗОСЬКА. Куды ты сабраўся?

САЎКА. Пайду разнясу жуду. Пагляджу, як гуляюць хлопцы ды дзяўчаты! Мо' пойдзем разам! Ах я й забыўся, што твая маці ў хаце. Я буду там, дзе гуляюць.

ЗОСЬКА. Не, даражанькі, я не пайду, бо тата вернецца. Баюся, зноў каб ня біліся з мамаю.

САЎКА. Паб'юцца і пагодзяцца.. Ну, а я пайшоў, а вечарам...

ЗОСЬКА. Вечарам, я буду. Я толькі чакаю вечера. Толькі ня позніся, памятай.

САЎКА. Не. Ніколі не спазьнюся! Бо дзе шчасьце чалавека чакае, і ведаючы аб гэтым, хто стане марудзіць... Ну бывай. (Пашоў).

**Зьява VI. — Зоська (адна).**

ЗОСЬКА. Бывай, бывай!... Мой соколік! Гуляй і за мяне, а я... я застануся ў хаце і буду чакаць вечара! Ох, хутчэй-бы сонейка хавалася й зоркі на небе ўбачыць... Не... Ня так хутка! Шчэ рана. Эх! эх (хаваецца).

**Зьява VII. — Мікіта (адзін).**

МІКІТА (ідучы). Хлапец зловіць, пацалуець — нікому ня жалься. Ну пашоў Саўка, значыць сьмела можна йсьці гуляць да Зоські. Ды трэба занясьці ей яблыкаў. (Вымае з за пазухі) Аж папацелі, увесь дзень за пазухай лежучы. Толькі каб ня даць кіслага, а то, як учора шнурне мне ў галаву (кусае). Вой кіслы. Пэўна дзічка папалася (плюе). Як палын пячэ! (кусае) гэта лепшае! (кусае). А вось гэта як цукер. Ну гэта я дам ей (яшчэ разы 2 кусае, кладзе за пазуху і ідзе ў хату).

**Зьява VIII. — Дар'я.**

ДАР'Я (выйшла). Саўка! А, Саўка! Дзе-ж гэта ён дзеўся, няўжо да Яўменяных пашоў? Палудняваць забыўся хлапец! А бадай цябе! (Пашла ў хату).

**Зьява IX. — Зоська — Мікіта.**

ЗОСЬКА (ў хаце) А то як скажу Саўку! Што? Вось гэтай чапялою!

МІКІТА. Вой! вой! вой! (выбягае, абора чапляецца ў дзьверы і ён падае). Стой! стой! абора ўчапілася (зрывае лапаць і ўцякае. Здалёку). Пайду Саўку скажу, што ня хоча цалавацца — Ай, яй, яй. Бацька йдзе. Уцякаю.

**Зьява X. — Яўмень (адзін).**

ЯЎМЕНЬ. Ага! Трасца яму ў бок! Ня ўгледзіў толькі хто паляцеў з двара! Значыцца не абмыліўся! Значыцца, мая жонка, трасца ей ў бок!.. А гэта што? І лапця забыўся, як спужаўся! (Падымае). Аборку ўшчаміў, каб сабе галаву ўшчаміў у плот, трасца табе ў бок! Я ёй пакажу гэты лапаць (пашоў у хату).

**Зьява XI. — Мікіта (адзін).**

МІКІТА (выбягае на двор). Куды-ж гэта ён дзеўся? Так напалохала, што згубіў лапаць і ня ведаю гдзе... Вось бяда? Што дзень, то новыя лапці пляці; гэтак хутка рву, а тут яшчэ губляць пачаў. Ня відаць (пайшоў па вуліцы).

**Зьява XII. — Яўмень (адзін).**

ЯЎМЕНЬ (вышаў з хаты). А трасца табе ў бок! Цяпер ня вывернешся!.. (Пад вакно). Суседка! А, суседка! Калі ласка, на хвілінку выйдзі на двор, трасца табе ў бок!

### Зьява XIII. — Дар'я. — Яўмень.

ДАР'Я. А што маеце казаць, суседзе?

ЯЎМЕНЬ. Скажы мне, трасца табе ў бок, чый гэта лапаць? А?

ДАР'Я. Скуль я магу ведаць, пане суседзе.

ЯЎМЕНЬ. Не, ты ведаеш, але казаць ня хочаш? Вы ўсе ў вадну дудку йграеце, трасца вам у бок.

ДАР'Я. А дзе вы яго ўзялі, пане суседзе?

ЯЎМЕНЬ. Дзе ўзяў? Вось тут, на дварэ!

ДАР'Я. Мо' дзеці чые прынясьлі, я-ж кажу...

ЯЎМЕНЬ. Дзеці! Дзеці! Вось я ёй пакажу,— дзеці! Значыцца й ты за яе; — чорт за чарта! А шчэ хацела, каб дачку аддаў за сына, трасца табе ў бок! А праўды казаць ня хочаш?

ДАР'Я. Ды кіньце вы, суседзе! Людзі нагаварылі, а вы й веры далі (пашла ў хату).

### Зьява XIV. — Яўмень (адзін).

ЯЎМЕНЬ. Я ня кіну пакуль ня буду ведаць чый гэта лапаць. А тады... трасца яму ў бок! (На вуліцы бегае Мікіта, шукае лапця, размахвае рукамі)

### Зьява XV. — Яўмень. — Мікіта.

ЯЎМЕНЬ. Мікіта!

МІКІТА. Чаго?

ЯЎМЕНЬ. Ты ня бачыў?

МІКІТА. Каго?

ЯЎМЕНЬ Хто з двара бег?

МІКІТА. Чаго?

ЯЎМЕНЬ. Хто з двара бег?

МІКІТА. Чаго? (плюе).

ЯЎМЕНЬ. Цьфу! Дурніца, трасца табе ў бок, я пытаю...

МІКІТА. Чаго?

ЯЎМЕНЬ. Ты ня бачыў?

МІКІТА. Каго?

ЯЎМЕНЬ. Хто з двара бег?

МІКІТА. Чаго?

ЯЎМЕНЬ. Цьфу! (Мікіта плюе). Трасца табе ў бок (пашоў).

### Зьява XVI. — Мікіта (адзін).

МІКІТА. І крычыць і плёвае. Ці не адурнеў ён? Нічога не разумею! І што гэта будзе? Што я бацьку скажу, дзе ён дзеўся? А, мо я яго дома забыўся? Не, здаецца быў; трэба шукаць. (Пашоў).

**Зьява XVII. — Яўмень. — Зоська. — Грыпіна.**

ЯЎМЕНЬ. Трасца табе ў бок! Яж-пытаю, хто ў цябе быў? Я пытаю, чый гэта лапаць?

ЗОСЬКА. Скуль-жа мама ведае, чый гэты лапаць, можа сьвіньня прыцягнулі на двор!

ЯЎМЕНЬ. Мо' скажаш — вароны прынесьлі! Не, я усё разумею! Далей гэтак ня будзе! Я хутка за цябе вазьмуся (суне лапцям жонцы пад нос). Кажы хутчэй, чый гэта лапаць?

ГРЫПІНА. Адчапіся, зьдзяцінеў, ці што? Знайшоў недзе атопак, ды каб я ведала, чый ён. Скуль-жа мне ведаць?

ЯЎМЕНЬ. Вось як вазьму аборамі сьцягаць, дык будзеце ведаць, трасца вам у бок.

ЗОСЬКА. Ізноў тата пачынаеце? Сьвяты дзень, — усе людзі на вуліцы сьмяяцца будуць!

ЯЎМЕНЬ. Сьмяюцца! Няхай ведаюць, няхай ведаюць, якую Яўмень жонку мае, той Яўмень, які на ўсей вёсцы лепшым гаспадаром лічыцца.

**Зьява XVIII. Яўмень — Зоська — Грыпіна — Дар'я.**

ДАР'Я (увайшоўшы). Няўжо-ж аб тым? суседзе дараженькі.

ГРЫПІНА. Вось бачыш, мая міленькая, знайшоў на вуліцы лапаць, і хоча каб я згадала, чый ён. Звар'яцеў, ці што чалавек?

ЯЎМЕНЬ. Не на вуліцы, а на двару, трасца табе ў бок.

ЗОСЬКА. Кіньце, вы яго тата, няхай ён згарыць!

ЯЎМЕНЬ. Я ня кіну, пакуль не даведаюся чый ён!...

ДАР'Я. Кажу, што дзеці пясок у ім вазілі, сама бачыла.

ГРЫПІНА. Ну, вось, пясок вазілі...

ЯЎМЕНЬ. Каб цябе на могілкі вазілі. Ты яшчэ будзіш зубы загаварываць. Я цябе пытаю, чый гэта лапаць?

**Зьява XIX. Тыя-ж — Мікіта.**

МІКІТА (бягучы). А дзядзечка, аддайце лапаць мой, а то тата сварыцца будзе на мяне!

ЯЎМЕНЬ. Які лапаць, трасца табе ў бок!

МІКІТА. Ды мой! Я ўцякаў ад вас і ўшчаміў абору ў дзьверы, дык лапаць адарваўся.

ЯЎМЕНЬ (кідае лапаць). Цьфу, трасца табе ў бок! Што-ж ты раней не казаў, як я ў цябе пытаў?

МІКІТА (падымаючы лапаць). А дзякуй Вам, а я думаў, што згінуў.

ГРЫПІНА. Ага! Ці я не казала! Каб табе толькі дзён хварэць, колькі ты мне сінякоў дарэмна пасадзіў на плячох пугаю. Бачылі, якая праўда?

ДАР'Я. Я-ж кажу, суседзе, людзей ня слухай.

ГРЫПІНА. Вось як вазьму гэты лапаць, дык ўсю морду вытаўку, (бярэ лапаць).

МІКІТА. (не дае). Ой-ёй. Я ня дам, я ня дам паскудзіць лапця.

ГРЫПІНА (да Яўменя). Прасі прабачэньня!

ДАР'Я. Але, суседзе, трэба перапрасіць жонку! Мала што прыдзецца. Лепш згодна жыць.

ЯЎМЕНЬ. Ну, прабачай, трасца табе ў бок! Я абмыліўся — людзей паслухаў... Болей гэтага ня будзе, і вы, суседка, выбачайце: здаецца цябе з гарачкі сёньня аблаяў— мне здавалася...

ГРЫПІНА. Здавалася! Няхай тябе не здаецца дурной авечцы... здавалася.

ДАР'Я. Ды нічога... я-ж кажу. Я прабачаю.

ЗОСЬКА. Вось, дзякуй табе Мікіта, што ты прызнаўся да лапця, а то невядома што было-б.

МІКІТА. Прызнаўся! Каб да свайго лапця ды ня прызнацца. — Хто мне спляце, акром бацькі!

ДАР'Я. А лепш за ўсё гэта з суседзямі жыць у згодзе. Яны заўсёды праўду скажуць! Ці-ж ня бачаць суседзі, што іробіцца на адным двары (чуваць сьпеў хлопцаў дзяўчат).

ЗОСЬКА. Пэўна Саўка вяртаецца. А мо-б у гэту шчасьлівую гадзіну на ўсё мама згадзілася? (ідзе на вуліцу, за ёй Мікіта).

ГРЫПІНА. Ды мы, здаецца, ніколі ня сварымся, хіба вось ён...

ЯЎМЕНЬ. Што ён? Што ён, трасца табе ў бок!

ДАР'Я. І дзеткі нашы жывуць у згодзе паміж сабой... Мой Саўка колькі разоў хацеў, але не адважыўся у вас запытацца.

ЯЎМЕНЬ. Ды што там пытацца, калі Зоська згодна...

ГРЫПІНА. Ці-ж у нас аб гэтым пытаць? самі няхай згаварацца!

ЗОСЬКА. Мамачка! Даражэнькая! Даўно аб гэтым хацела ў вас запытацца.

ГРЫПІНА. Дачушка! Або я перашкаджаю? Няхай Бог дае ўсяго найлепшага.

ДАР'Я (ўбок). Вось і памагло тое зельле. Мікіта, ідзі пазаві Саўку!

МІКІТА. Вось ён тут ужо ідзе з хлапцамі.

ЗОСЬКА (з радасьцю)!.. Хутчэй! Хутчэй!

**Зъява XX. — Тыя-ж і Саўка.**

(Убягае Саўка, за ім хлопцы і дзяўчаты).

САЎКА (да Зоські). Чаго табе?

ЗОСЬКА. Ня пытай чаго, а вось цалуй руку тату і маме.

САЎКА. Навошта!

ЗОСЬКА. Ня пытай, а цалуй, калі кажу. Ды Мікіту дзякуй скажы, скажы, хутчэй — яго лапцю; ён пагадзіў бацькоў, а яны згадзіліся, каб мы жаніліся.

САЎКА. Няўжо! (Цалуе руку). Дзякую! Большага шчасьця я мець не хачу. Дзякую!

ЯЎМЕНЬ. Жаніся з Зоськай! А як мы старыя, памром, прыары зямлю сваю да нашай, ды жывіце з Богам. Трасца вам у бок!

ЖОНКА. Няхай вас Бог благаслаўляе (Мікіта з лапцем стаіць і робіць міну).

САЎКА. Але цікава, як Мікітаў лапаць дапамог мне ажаніцца з Зоськай?

ДЗЯЎЧЫНА. Мікіта! Абувай лапаць, зараз скакаць будзем. Зоська замуж ідзе за Саўку.

МІКІТА. Замуж! За Саўку! Вой! Вой! Вой!

ЗОСЬКА. Ну, Мікіта, і ты паскачаш на вясельлі. Бо каб ня твой лапаць, мо-б яшчэ ня скора яно было-б.

МІКІТА. А мо' гэта ня мой лапаць (угля даецца).

ДЗЯЎЧЫНА. НУ, хутчэй абувай, чуеш! Скакаць пойдзем!

МІКІТА. З табой?

ДЗЯЎЧЫНА. Ну, а што-ж? Са мною? Ох ты дурніла! Яшчэ падзякуй, што бяру!

МІКІТА. Бярэш?! Буду абувацца (садзіцца абувае).

ЯЎМЕНЬ. Трасца вам у бок! Прасьпявайце што небудзь ды паскачыце!

ДАР'Я. Але дзяўчаткі (пяюць вясельную).

УСЕ. А цяпер паскачам!

ДЗЯЎЧЫНА. Хутчэй, Мікіта!

МІКІТА. Абору завяжу!

ЯЎМЕНЬ. Мо' і мы сваццы, тупнем, трасца ім у бок?

ДАР'Я. А чаму-ж не!

ХЛАПЕЦ. А я з вамі цётачка, каб не зайздросна было, што ўсе скачуць.

ГРЫПІНА. Дый даўно я ўжо не скакала.

МІКІТА. А цяпер і я тупну! Вось гэтым лапцям, што Зоську ажаніў! Пойдзем Аўгіня, ды тупнем, каб чорту мотапша стала!

(Пачынаюць скакаць).

ЗАСЛОНА.

А. Паплаўскі і А. Голянскі.

# Пакой у наймы

Жарт у 1 акце.

Пераклаў з польскае мовы

СЯРГЕЙ ПЯЮН.

1927 год.

АСОБЫ:

Лузінскі Пранук—эмэрыт.

Барбара, яго жонка.

Алена.

Станіслаў.

Даміцэля, служанка.

Ігнат, пажарны.

Пасыльны.

Хлапец.

(Прызваіта ўмэбляваны пакой. З левага боку двое дзьвярэй, з правага вакно і пяніно *), у глыбіні дзьверы. Паміж вакном і пянінам люстра).

## Сцэна 1.

### Лузінскі і Барбара.

ЛУЗІНСКІ. Басенька, ужо тыдзень мінае, як мы вярнуліся з летняга памешканьня, трэба нарэшце падумаць, каб аддаць пакой у наймы.

БАРБАРА. І то нават зараз. Дваіх нас толькі, навошта нам чатыры пакоі! Можам адзін з іх уступіць... Але каторы?

ЛУЗІНСКІ. Ну, ведама, што той! (паказвае на пакой з левага боку).

БАРБАРА. А я думаю, што той (паказвае на другі).

ЛУЗІНСКІ. Наш спальны? — Не, не! Лепей гэты (паказвае на сцэну). Выгадней нам. Тут ёсьць асобны ўваход, а мы там маем другія дзьверы праз кухню.

БАРБАРА. Мо‘ й праўду кажаш! Але за якую цану яго аддамо!

ЛУЗІНСКІ. Зараз палічу (лічыць на кавалку паперы).

БАРБАРА. Я табе скажу. З утрыманьнем 24 рублі на месяц.

ЛУЗІНСКІ. Што?... Ужо вылічыла?

БАРБАРА. А што-ж ты думаеш, што я без пяра ды чарніла ня ўмею лічыць? Сказала 24 рублі на месяц і ані граша таньней.

ЛУЗІНСКІ. А ці не за танна гэта?

БАРБАРА Зусім не! На што-ж я гаспадыня?

ЛУЗІНСКІ. Ну, як кажаш, што не — дык пэйне гэтак мусіць быць. Падам зараз у газэту абвестку, што ў нас ёсьць пакой у наймы.

БАРБАРА. Адразу абвестку! Быццам нельга самому напісаць і павесіць на браме.

ЛУЗІНСКІ. Але-ж я гэтага ня буду вывешываць!

БАРБАРА. Аб табе не кажу. Старож гэта зробіць бясплатна. Навошта-ж адразу плаціць за абвестку ў газэце!

---

*) Можна іншы інструмант.

ЛУЗІНСКІ. Праўду кажаш, Бася! (на старане). Застанецца больш капеек на абыграньне гэтага Пірамідовіча.

БАРБАРА. Што ты там мармочыш пад носам?

ЛУЗІНСКІ. Я?... Нічога... Казаў толькі, што трэба будзе напісаць, а ў мяне рука трохі трасецца.

БАРБАРА. Гэта ад тае няшчаснае пірамідкі.

ЛУЗІНСКІ. Скуль-жа!

БАРБАРА. Ну, ну, усупакойся! Прыцісьні руку моцна да стала, дык ня будзе табе дрыжэць.

ЛУЗІНСКІ. Гэтак кажаш? Ану спрабую... (бярэ паперу й піша). Праўду кажаш, дужа добры спосаб. — Ці гэткі кавалак хопіць? (паказвае невялічкі кавалак).

БАРБАРА. Скуль-жа! Вазьмі паўаркуш і пішы вялікімі літарамі, каб кожны мог прачытаць.

ЛУЗІНСКІ. Добра, добра! (піша). Пакой у наймы... (устае), але выбач мне мая Бася, ведаю, што з утрыманьнем, але ня ведаю, ці з цэладзённым, ці не.

БАРБАРА. Ведама, што з цэладзённым!... (лічыць хутка на пальцах) са сьнеданьнем, палуднем, вячэраю, апалам і абслугаю!

ЛУЗІНСКІ (піша). Зараз! Зараз! Трохі вальней, бо я памылюся!... Значыць... пакой у наймым з утрыманьнем, сьнеданьнем.

БАГБАРА. Але-ж гэтага не патрабуеш вылічваць. Гэта само праз сябе ведама.

ЛУЗІНСКІ. А праўда. Ты аднак маеш галоўку на паказ, Бася.

БАРБАРА. Толькі ад сяньня аб гэтым ведаеш?

ЛУЗІНСКІ (піша). Ды не... але бачыш?

БАРБАРА. Што бачыш... Нічога ня бачыш!... Пішы ўжо, пішы мой Пранук, бо я мушу ехаць у места пашукаць служанкі. Меліся мне яе ўчора з канторы прывясьці, але відавочна забыліся.

ЛУЗІНСКІ. Ужо... ўжо... на месяц... вось ўжо ёсьць! Скончыў! (устае).

БАРБАРА. Прачытай-жа.

ЛУЗІНСКІ (чытае). Пакой у наймы з цэладзённым утрыманьнем і з фартапіянам...

БАРБАРА. З пянінам а не з фартапіянам...

ЛУЗІНСКІ. А праўда! Абмыліўся, папраўлю.

БАРБАРА. Папсаваў поўаркуша паперы.

ЛУЗІНСКІ. Ат! Глупства! Паў-гроша.

БАРБАРА. Паў-гроша!... А бяз паў-гроша ня будзем мець рубля.

ЛУЗІНСКІ. І гэта нібы праўда...

БАРБАРА. Нібы праўда?... Я табе кажу, што гэта зусім праўда.

ЛУЗІНСКІ. Няхай і гэтак будзе... значыць... (чытае) з пянінам, пры парадачным сужонстве (малжонстве).

БАРБАРА. А дадай бязьдзетным.

ЛУЗІНСКІ. Бася... а ну-ж?... Урэшце гэтак афішавацца... (чытае) для кавалера.

БАРБАРА. Для якога кавалера.

ЛУЗІНСКІ. Ну, калі кажу, што для кавалера, дык пэўне-ж не для паненкі.

БАРБАРА. А вось-жа для паненкі!

ЛУЗІНСКІ. А вось не! Я не хачу паненкі!

БАРБАРА. А я не хачу кавалера!

ЛУЗІНСКІ. Ну, дык зусім ня буду пісаць! Няхай пакой стаіць пусты! (ходзіць борзда).

БАРБАРА. А няхай стаіць! (ходзіць борзда).

ЛУЗІНСКІ (па паўзе). Скажы мне, Бася, чаму ты ня хочаш кавалера?

БАРБАРА. А чаму ты ня хочаш паненкі?

ЛУЗІНСКІ. Я маю да таго важныя прычыны. Аб сабе я не баюся...

БАРБАРА. Я таксама, аб сабе не баюся, але таксама маю прычыны.

ЛУЗІНСКІ. І якія-ж гэта?

БАРБАРА. Ого! Разумны! Я табе першая не скажу. А ні думаю.

ЛУЗІНСКІ. А ні думаеш?

БАРБАРА. Не.

ЛУЗІНСКІ. Як мяне кахаеш?

БАРБАРА. Як цябе кахаю.

ЛУЗІНСКІ. Ну, дык я табе ўступлю. Разумны заўсёды гэтак робіць.

БАРБАРА. Калі так, дык я першая скажу.

ЛУЗІНСКІ. Не! Цяпер я... я першы скажу.

БАРБАРА. Вось не!—Не хачу кавалера таму...

ЛУЗІНСКІ. За пазваленьнем.

БАРБАРА. Пранук, не перарывай мне! Не хачу кавалера таму, што ня плаціць рэгулярна, вяртаецца позна дамоў і непарадачны.

ЛУЗІНСКІ. Гэта няпраўда! Я сам быў кавалерам і ведаю, што кожны парадачны.

БАРБАРА. Глядзі, які пратэктар!

ЛУЗІНСКІ. Пратэктар не пратэктар! А я табе кажу, што паненкі шмат горшыя.

БАРБАРА. Цікавіць мяне, чаму?

ЛУЗІНСКІ. Чаму? Яна пытаецца чаму?... Вось бачым таму, што да паненак заўсёды прыходзяць у адведзіны рожнародныя асобы.

БАРБАРА. Рожнародныя?.. Што-ж ты кажаш!

ЛУЗІНСКІ. Дзядзькі, стрыечныя браты, кузыны а гэтак далей.

БАРБАРА. Але-ж Пранук...

ЛУЗІНСКІ. Зараз, хай-жа скончу! Вынікаюць пасьля з гэтых адведзінаў рожныя няпрыемнасьці. Не пазьней як учора казаў мне гэны пачцівы Пірамі...

БАРБАРА. Ізноў той Пірамідовіч! Ня можаш ты ад яго ніяк адчапіцца.

ЛУЗІНСКІ. Што ты маеш да яго? Вельмі прызваіты і парадачны чалавек! Калі-б быў кавалерам, адразу-б уступіў яму гэты пакой (на старане). Меў-бы ў кожным часе партнёра да пірамідкі.

## Сцэна II.

### Тыя-ж і хлапец.

ХЛАПЕЦ. Ці тут жыве пан Лузінскі?

ЛУЗІНСКІ. А чаго ты хочаш, малы?

ХЛАПЕЦ. А, гэта пан! (ціш эй). Пан Пірамідовіч казаў прасіць, каб зараз пан прыйшоў на горку.

ЛУЗІНСКІ. Цішэй!... добра! добра!... скажы, што зараз прыду.

ХЛАПЕЦ. Більлярд ужо для паноў заказаны (выходзіць).

## Сцэна III.

### Лузінскі і Барбара.

БАРБАРА (злая). Ты ня пойдзеш да гэтага Пірамідовіча, разумееш?

ЛУЗІНСКІ. Мушу йсьці канешна, бо яму даклярававаў.

БАРБАРА. Гэта мне ўсё роўна! Я цябе ня пушчу.

ЛУЗІНСКІ. Калі бачыш, Басячка, ён мне павінен адплаціць.

БАРБАРА. Што мне да гэтага.

ЛУЗІНСКІ. Я мушу абыграць яго бязумоўна.

БАРБАРА. Ня пойдзеш і квіта! Пільнуй хату!

ЛУЗІНСКІ. Але-ж мая...

БАРБАРА. Ніякага але... Сядай ды пішы, што пакой у наймы для паненкі.

ЛУЗІНСКІ. Я не магу напісаць, што для паненкі.

БАРБАРА. Дык я сама напішу!

ЛУЗІНСКІ. Ані важся мне! Бо як зазлую, а ты-ж мяня ведаеш.

БАРБАРА. Ведаю, што ты бабскі атопак.

ЛУЗІНСКІ. Толькі калі ласка бяз гэтакіх прытычкаў, бо будзе кепска. Дык ня хочаш кавалера?

БАРБАРА. Тысячу разоў ужо казала, што не!... Аб сабе я не баюся...

ЛУЗІНСКІ (на старане). Яна аб сабе баіцца... (Голасна). Але я маю спосаб, каб мне было добра й табе гэтак сама, каб ня быў ані кавалер ані паненка.

БАРБАРА. Дык можа ўдавец або ўдава?

ЛУЗІНСКІ. Ані адно, ані другое. Я маю ў думцы нешта іншае... Бася, слухай... (з націскам). Няхай між намі вырашыць лёс.

БАРБАРА. Добра, на вузялкі (выцягвае хустку).

ЛУЗІНСКІ. Ого, на вузялкі мяне ўжо ня зловіш! Добра памятую, што мне тагды зрабіла. Не, не. Я маю іншы спосаб. Напішу: для аднэй асобы, — а хто першы зьявіцца — кавалер ці паненка—таго прымем.

БАРБАРА. Згода!

ЛУЗІНСКІ. Вось гэтак люблю! Дайма сабе бусі (цалуюцца).

БАРБАРА (на старане). Ня думала, каб ён меў яшчэ гэтулькі алею ў галаве. Цэлае нясшасьце, што ён вечна кіксуе, грае з гэтым Пірамідовічам на більлярдзе й марнуе непатрэбна грошы. Вось каб толькі якая прызваітая паненка трапілася.

ЛУЗІНСКІ (устае). Глядзі - ж, ці цяпер добра (паказвае).

БАРБАРА (чытае). Дасканальна! З пянінам для аднае асобы.

ЛУЗІНСКІ. Я зараз апрануся і занясу да стоража, каб павесіў на браме (убіраецца).

БАРБАРА. Чакай, чакай Пранук! Пойдзем разам (на старане). Не магу яго самога пусьціць, бо ўцячэ ад мяне (голасна). Пайду толькі па адзеньне й капялюш (выходзіць налева).

## Сцена IV.

**Лузінскі** (адзін).

ЛУЗІНСКІ. А каб цябе чорт узяў! Прападзе мая партыя з Пірамідовічам, а ён ужо більлярд заказаў. Але-ж не магу выйсьці бяз Басі, бо зробіць авантуру... (праз часіну). А калі-б я ўдаў, што ня чуў, што казала і ўцёк?.. (выймае партманэ і лічыць грошы). Маю яшчэ рубель і трыццаць пяць капеек, гэтага мне павінна хапіць!.. Ну дык выносімся ціхачом... (ідзе). Бывай здарова, мая...

## Сцена V.

**Лузінскі і Барбара.**

БАРБАРА (убраная ўваходзіць). Можам ісьці.

ЛУЗІНСКІ (на старане). Маеш табе, ізноў кікс са

згубнаю! Спазьніўся! (Голасна). Зараз, зараз!.. (на старане). Як-бы тут выкруціцца! (Голасна). Ага! Ёсьць! (Бярэ капялюш).

БАРБАРА. Ідзём-жа ўрэшце...

ЛУЗІНСКІ. Зараз... (думае). Нешта я хацеў сказаць...

БАРБАРА. Ну, хадзі, хадзі, па дарозе мне скажаш. (Ідзе да дзьвярэй). Ідзем?

ЛУЗІНСКІ. Іду! (На старане). Што тутка зрабіць? (Ідзе).

## Сцэна VI.

### Тыя-ж і Пасыльны з Даміцэляю.

ПАСЫЛЬНЫ. Няхяй будзе пахвалёны.

ЛУЗІНСКІ. На векі! А што гэта?

ПАСЫЛЬНЫ. А гэта вяльможны пане прывёў служанку.

БАРБАРА. У самую пару.

ЛУЗІНСКІ (на старане). Сапраўды! У самую пару. (да Барбары). Мая душка, я ўжо пайду, бо нельга даўжэй адкладываць.

БАРБАРА. Ідзі, але зараз-жа варочайся.

ЛУЗІНСКІ. Пачакаю толькі, пакуль сторож павесіць карту. (На старане). Пачцівая гэта служанка. Прыйшла як анёл з неба на маю ўцеху (выходзіць).

## Сцэна VII.

### Барбара, Пасыльны і Даміцэля.

БАРБАРА. Ці ты служыла ўжо гдзе?

ДАМІЦЭЛЯ. Так, прашу лашкі пані.

ПАСЫЛЬНЫ. Яна служыла ў вельмі парадачным доме.

БАРБАРА. А чаму адтуль адходзіш?

ПАСЫЛЬНЫ. Бо, бачыце вяльможнае пані...

БАРБАРА Але-ж я яе пытаюся, ня вас...

ПАСЫЛЬНЫ. Калі-ж, вяльможнае пані, яна вельмі спрытная дзяўчына, толькі крыху нямравая.

БАРБАРА. Але-ж на гэта можа сама атказаць! (да Даміцэлі). Чаму адходзіш?

ДАМІЦЭЛЯ. Бо, прашу лашкі пані, яна памёрла і застаўся толькі пан з маладым панічом, а я ў кавалераў не хачу шлужыць!

БАРБАРА. Умееш гатаваць?

ПАСЫЛЬНЫ. О! Умее! Яна ўсё ўмее!

БАРБАРА. Ці ты парадачная?

ДАМІЦЭЛЯ. Нібы як гэта, парадачная? Ці водле начыньняў?

БАРБАРА. Але. Ці любіш у кухні ўтрымліваць парадак?

ПАСЫЛЬНЫ. О за гэта дык магу ручацца.

ДАМІЦЭЛЯ. У мяне будзе аж зігацець ўсё.

ПАСЫЛЬНЫ. А як-жа, прашу вяльможнае пані.

БАРБАРА. Даўно ты ўжо ў Вільні?

ДАМІЦЭЛЯ. На сьвятога Міхала будзе год.

БАРБАРА. А кавалера маеш?

ДАМІЦЭЛЯ. Гдзе-ж бы я там пасьмела!

БАРБАРА. Вы-то любіце.

ПАСЫЛЬНЫ. Скажы дзяўчына адразу (да Барбары). Але пэўне ня мае, бо яшчэ нядаўна ў Вільні.

БАРБАРА. А знаёмых ці сваякоў шмат маеш?

ДАМІЦЭЛЯ. Ды дзе-ж там, прашу лашкі пані. Знаю толькі аднаго, з пажарнае каманды з другое часьці, але гэта мой штрыечны брат, што хутка галуны даштане.

БАРБАРА. Сапраўды стрыечны брат?

ДАМІЦЭЛЯ. Гэткі кузын, прашу лашкі пані.

БАРБАРА. За абслугу колькі ты брала?

ПАСЫЛЬНЫ. Там брала дванаццаць рублёў на квартал.

БАРБАРА. Я гэтулькі плаціць не магу.

ПАСЫЛЬНЫ. Вяльможная паня сказала, што за дзесяць рублёў, але я хацеў лепш прывясьці на два рублі больш, каб толькі была парадачная дзяўчына.

БАРБАРА. Гэта для мяне за дарага.

ПАСЫЛЬНЫ (на старане да Барбары). Калі вяльможная паня дасьць мне паў-рубель, дык я яе намоўлю.

БАРБАРА (на старане). Добра! (да Даміцэлі). Згаджаешся на дзесяць рублёў?

ДАМІЦЭЛЯ. Гэта-ж страшэна мала, прашу лашкі пані.

ПАСЫЛЬНЫ. Бяры дзяўчына, бо пазьней гэткага добрага мейсца не дастанеш. Я гэтых паноў знаю не ад сяньня і ведаю, што гэта вельмі паважныя людзі.

БАРБАРА (на старане). Скуль ён нас знае?

ДАМІЦЭЛЯ. Калі-ж гэта мала.

ПАСЫЛЬНЫ. Як будзеш добра захоўвацца, пасьля дастанеш балей.

ДАМІЦЭЛЯ. Я-то жаўшоды добра жахоўваюся.

БАРБАРА. Ну дык як-жа? Згаджаешся?

ДАМІЦЭЛЯ. Ну! Няхай ужо будзе! (цалуе яе ў руку). Прашу лашкі пані, тут мой пляшпарт (падае).

БАРБАРА (чытае). Даміцэля Выджык!... Калі-ж можаш прыйсьці?

ДАМІЦЭЛЯ. Хаця-б і зараз — толькі скокну па рэчы.

БАРБАРА. Гэта добра. Вось маеш тут рубель задатку (д а е).

ДАМІЦЭЛЯ. Дзякую! Мігам паляту (в ы х о д з і ц ь п р а з д з ь в е р ы ў г л ы б і н е).

## Сцэна VIII.

### Пасланец, Барбара.

БАРБАРА. А гэта вам! (Д а е я м у п а ў - р у б е л ь).

ПАСЫЛЬНЫ. Ручаю, што будзе паслухмяная.

БАРБАРА. Паглядзімо... (ж о р с т к а). Бывайце здаровыя.

ПАСЫЛЬНЫ (н а с т а р а н е). О! о-о-о-о!... (г о л а с н а). Спакойнай ночы вяльможнай пані (в ы х о д з і ц ь).

## Сцэна IX.

БАРБАРА (а д н а). Пазбыла ўрэшце клопат з галавы. Цяпер магу спакойна зайсьці да пані Туркацінскай. Даведаюся аб цікавых навінках, ужо зажурылася я аб іх. Мусіць цікавыя (п р а з х в і л і н у). Як гэта мой Пранук прыходзіць — меўся вярнуцца, як толькі сторож павесіць карту. — О! ручаю, што сядзіць на рагу ў цукерні ды грае на більлярдзе з гэтым няшчасным Пірамідовічам... Гэны Пірамідовіч затручывае спакой майго жыцьця! Ненавіджу гэтага чалавека.

## Сцэна X.

### Барбара і Алена (з г л ы б і н і).

АЛЕНА. Перапрашаю паню, ці тут ёсьць пакой ў наймы?

БАРБАРА. Але (н а с т а р а н е). На маё выйшла? Будзем мець паненку.

АЛЕНА. А каторы гэта пакой.

ВАРБАРА. А вось.

АЛЕНА. Гэты пакоік мне падабаецца. Ці гэта вакно на вуліцу?

БАРБАРА. Не — на панадворак (н а с т а р а н е). Якая яна сымпатычная.

АЛЕНА. Прашу паню, я-б наняла гэты пакоік, але ці ня будзе для мяне за дарагі?

БАРБАРА. Падам Вам найтаньнейшую цану. Меў каштаваць 24 рублі, а я яго ўступлю Вам за 22 рублі на месяц.

АЛЕНА. А ці магу я яшчэ сяньня ўвясьціся?

БАРБАРА. А ўжо-ж, канешна. (н а с т а р а н е). Што гэта за мілая асобка!

АЛЕНА. Ня буду нікому перашкаджаць, калі са дзьве гадзіны штодзень пасьвячу практыкаваньням на пяніне?

БАРБАРА. Нікольki! Дык панюся ёсьць вучыцелькай музыкі?

АЛЕНА. Не, прашу паню. Я прыехала на апошні курс музыкальнае кансэрваторыі.

БАРБАРА. Дык панюся ня тутэйшая?

АЛЕНА. З Клецка, прашу паню.

БАРБАРА. З Клецка?... Шкада.

АЛЕНА. Чаго шкада?

БАРБАРА. Што ня знаю тых ваколіцаў. А гдзе панюся мае рэчы?

АЛЕНА. Застанавілася ў готэлі, але рада-б якнайхутчэй адтуль выбрацца, бо-ж разумее пані, што кабеце ня вельмі прыемна там жыць.

БАРБАРА. Панюся кажа зусім праўду. Будзе панюсі... а як паню па іменьні?

АЛЕНА. Алена.

БАРБАРА. Дык будзе пані, панна Алена, у нас як у раі — бясьпечна, ціха, спакойна, мы дзяцей ня маем. Муж мой рэдка ўдому, бо шалёна любіць граць на більлярдзе ў нейкую там пірамідку і заўсёды яго выцягне.

АЛЕНА. Цешуся я вельмі, што ўдалося мне хутка знайсьці памешканьне і то нават блізка ля кансэрваторыі.

БАРБАРА. Ці ведае панюся што? — Сказала я пані' што аддам гэты пакой за 22 рублі, вось-жа чуючы да пан нейкую асаблівую сымпатыю, аддам яго пані за 20 рублёў (на старане). Як яна мне падабаецца!

АЛЕНА. Дзякую пані, — але ўжо час ісьці па рэчы— хутка зусім сьцямнее.

БАРБАРА. Пэўне. Уначы перамяшчацца ня вельмі прыемна.

АЛЕНА. Што праўда ня маю шмат рэчаў, кошык ды валізку толькі.

### Сцэна XI.

#### Тыя-ж і Даміцэля.

ДАМІЦЭЛЯ (увяходзячы). А вось, прашу лашкі— я ўжо тутака.

БАРБАРА. Дужа добра! Ідзі настаў самавар. Вуглі ёсьць у кухні.

ДАМІЦЭЛЯ. Жараж будзе! (выходзіць налева).

## Сцэна XII.

### Барбара й Алена.

АЛЕНА. Цяпер разьвітаюся з паняй, а за хвілінку буду з паваротам з рэчамі.

БАРБАРА. Я таксама выходжу. Магу кавалак дарогі паню праваджаць.

АЛЕНА. Вельмі мне прыемна.

БАРБАРА (кліча). Даміцэлька!

## Сцэна XIII.

### Тыя-ж і Даміцэля (з лева).

ДАМІЦЭЛЯ. Шлухаю, прашу лашкі пані.

БАРБАРА. Гэта паня вернецца сюды за поўгадзіны... (Да Алены) праўда?

АЛЕНА. Пэўне, што гэта даўжэй не працягнецца.

БАРБАРА (да Даміцэлі). Дык запаліш лямпу і падасі пані самавар. Цукер і гарбата ёсьць у гэным пакоі на стале.

ДАМІЦЭЛЯ. Шлухаю.

БАРБАРА. Калі-б я а восьмай гадзіне не вярнулася, паклічаш стоража, каб табе памог прынясьці сюды ложак з таго пакою.

ДАМІЦЭЛЯ. Шлухаю.

БАРБАРА (да Алены). А цяпер магу служыць панюсі, (на старане). Як выйду ад Туркацінскай, мушу пашукаць Пранука, — заграецца да познае ночы.

АЛЕНА. Ну дык ідзём. (выходзяць).

## Сцэна XIV.

ДАМІЦЭЛЯ (адна). Шамавар жараж пачне гатавачча, ложак такшама жараж магу ўнесьці. Шторажжусім тут непатрэбны. Ёсьць тут мой шваяк, дык ён мне паможа (кліча праз вакно). Пане Ігнач, пане Ігнач!... О, ужо ідзе — ляпей, што ён шабе гэтыя грошы жаробіць.

## Сцэна X.

### Даміцэля і Ігнат (злева).

ІГНАТ. А што панна Даміцэля скажа?

ДАМІЦЭЛЯ. Памажы мне, пан Ігнач, унесьці ложак той, што там штаіць!

ІГНАТ. Добра, памагу, але як мяне панна Даміцэля пацалуе!

ДАМІЦЭЛЯ. Ого! Яшчэ чаго! Што да пачалунку дык няма.

ІГНАТ. Ужо мінулі тыя часы, калі хлопцы мусілі аб пацалункі прасіць. (Бярэ яе ў поўкі). Ну, цалуй панна Даміцэля.

ДАМІЦЭЛЯ. Пане Ігнач, няхай пан вэдле жартаў дасьць шпакой. Я гэтага ня люблю.

ІГНАТ. (На старане). Ганарыстая! (голасна). Калі гэтак, дык яшчэ сяньня панну Даміцэлю сам пацалую, але заўтра будзе іначай.

ДАМІЦЭЛЯ. Чалуй пан, але хутка, каб ніхто ня бачыў.

ІГНАТ. Давай панна губы (туліць яе да сябе і цалуе. На гэта ўваходзіць Лузінскі. Ігнат уцякае).

## Сцэна XVI.

### Даміцэля і Лузінскі.

ЛУЗІНСКІ (да сябе). А хай яго, таго Пірамідовіча! Абубніў мяне да рэшты... (Заўважыўшы Даміцэлю). А гэта што?

ДАМІЦЭЛЯ. А гэта я, прашу лашкі пана, а то мой брат Ігнач.

ЛУЗІНСКІ (працірае вочы на старане). Што за ліха! Я нічога ня бачу!... Няўжо-ж той каньняк! (голасна) Гдзе-ж той Ігнач?

ДАМІЦЭЛЯ (аглядаецца). А няма яго, бо ўжо пайшоў.

ЛУЗІНСКІ. А ты хто такая?

ДАМІЦЭЛЯ. Я, прашу лашкі пана, служанка Дамічэля.

ЛУЗІНСКІ. Вёлёнчэля?... Што ты пляцеш?

ДАМІЦЭЛЯ. Дамічэля, прашу лашкі пана.

ЛУЗІНСКІ. Ну, дык можаш сабе ісьці.

ДАМІЦЭЛЯ. Шлухаю. (выходзіць).

## Сцэна XVII.

ЛУЗІНСКІ (адзін). Гэты Пірамідовіч сапраўды пачынае рабіцца немагчымым. Бо, што-ж гэта прашу я каго, у мяне партыя на апошняй—і да таго контрапартыя—а адзін адзіны ас на більлярдзе, як стрэліў. Мераю, пане дабрадзею і ужо—ўжо маю ўдарыць, як раптам нехта праходзячы штурхае мяне. Я ведама раблю кікса, стаўлю сямёрку на більлярд, а Пірамідовіч выйгрывае. Або пасьля: хачу сабе заграць чатырнаццаць да сяродка, а меў я ўжо пятнаццатку зробляную. Мераюся я, пане, як лепей ня трэба, а тут нехта

з галерэі становіцца ды глядзіць на мае рукі, чаго я страшэнна ня люблю. Ударыў я фатальна, бо чатырнаццатка не дайшла, а чырвоная згінула ў рагу. Мусіў паставіць пятнаццатку на більлярд і прайграў партыю са сто трыццаць шэсьцю. Не! Колькі мне тая галярэя каштуе грошай, то страх! Праз яе правальваюся, а я station ўка лепей граю, чым Пірамідовіч. Забраў ад мяне сяньня дзевяць злотых, але я адыграюся і змыю як трэба яму скуру, толькі ў штос пападу і галерыі ня будзе. Найгоршая рэч, што ўжо грошай ня маю (д у м а е).

### С ц э н а XVIII.

### Лузінскі і Станіслаў.

СТАНІСЛАЎ (у в а х о д з я ч ы). Выбачайчаце, пане дабрадзею, здаецца мне, што тутака ёсьць пакоік ў наймы...

ЛУЗІНСКІ. Тут, тут, ласкавы пане.

СТАНІСЛАЎ. А ці можна яго абгледзіць?

ЛУЗІНСКІ. Калі ласка, вось гэты пакой (н а с т а р а н е). Сымпатычны юнак.

СТАНІСЛАЎ. Ад панадворка, калі не мыляюся.

ЛУЗІНСКІ. Але, пане! Спакойна, ціха, ў дадатак дзяцей яшчэ ня маем.

СТАНІСЛАЎ. Вельмі мне гэта прыемна. Маю шмат заняткаў, а туркат з вуліцы ды плач дзяцей перашкаджаўбы маёй працы.

ЛУЗІНСКІ (с п а л о х а н ы). Ці пан дабрадзей часам не літарат?

СТАНІСЛАЎ. Але-ж не. Я, прашу пана, просты кандыдат мэдыцыны і прыехаў каб прыгатавацца да апошняга экзаміну.

ЛУЗІНСКІ. Ага! Дык пан на доктара! Гэта вельмі добра. Але няхай пан дасьць слова, што ня будзе зносіць да дому ніякіх трупіх галоваў, касьцей ды іншых прэпаратаў, бо мая жоначка гэтага страшэнна баіцца.

СТАНІСЛАЎ. Але-ж не! Будзьце пэўны. Часам толькі моў што прынясу, але гэтак, каб ніхто ня бачыў.

ЛУЗІНСКІ. Гэта мяне надта цешыць. Калі-ж пан пераедзе?

СТАНІСЛАЎ. Перадусім, якая цана?

ЛУЗІНСКІ. Вельмі танна! З цэладзённым утрыманьнем, сьнеданьнем, палудням, вячэраю, апалам, абслугаю і пянінам...

СТАНІСЛАЎ. Каторае мне, кажучы праўду, зусім непатрэбна.

ЛУЗІНСКІ. А я бяз гэтага не магу аддаць у наймы.

СТАНІСЛАЎ. Ня можа пан?.. Ну, дык з пянінам...

ЛУЗІНСКІ. Будзе каштаваць 24 рублі ў месяц. Але ці пан дазволіць, калі мая жонка таксама сабе паграе, як пана ня будзе?

СТАНІСЛАЎ. З прыемнасьцяй!.. Калі ласка, a conto дзесяць рублёў (д а е).

ЛУЗІНСКІ. Сардэшна дзякую (н а с т а р а н е). Гэта нейкі парадачны чалавек.

СТАНІСЛАЎ. Ці магу праз паўгадзіны ўвясьціся?

ЛУЗІНСКІ. Хаця-б нават праз пяць мінут. Ласкавы пане, а ці пан грае ў пірамідку?

СТАНІСЛАЎ. Граю.

ЛУЗІНСКІ. А Ці добра?

СТАНІСЛАЎ. Гэтак—сярэдне!

ЛУЗІНСКІ. Я шалёна люблю гэную ігру. Мо' часам паграем. А ці пан ня кіксуеш прыпадкова?

СТАНІСЛАЎ. Амаль-што ніколі. Тымчасам... бывайце пане дабрадзей (н а с т а р а н е). Цікавы стары. Што яму да таго, ці кіксую я, ці не? (в ы х о д з і ц ь).

## Сцэна XIX.

ЛУЗІНСКІ (а д з і н). Маю дзесяць рублёў. Цяпер прынамсі абыграю гэтага Пірамідовіча. З грашыма чалавек заўсёды паўнейшы. Мушу ад яго навучыцца тых дубляў да рогу з пад банды. Кожны робіць з пэўнасьцяў. Дзіўны чалавек! Шалёнае шчасьце мае. Абяцаў пачакаць мяне з паўгадзіны. — Дзякаваць Богу, што будзем мець кавалера. Ня будзе вяртацца позна да дому, бо мае работу. Плаціць з гары ды грае ў дадатак у пірамідку. Неацэнены набытак мой (в ы х о д з і ц ь).

## Сцэна XX.

ДАМІЦЭЛЯ (з л е в а г а б о к у). Штарога ўжо няма! П а й ш о ў! Трэба запаліць лямпу ды ўнесьці ложак. Праж яго шамавар мой выгатаваўся, гэдак доўга тут марудзіў. Пан Ігнач пэўне чакае на панадворку (з а п а л ь в а е л я м п у).

## Сцэна XXI.

**Даміцэля, Алена** (з г л ы б і н і, з а ё ю І г н а т з к у ф э р к а м і к о ш ы к а м).

АЛЕНА. Ці паня ўдому?

ДАМІЦЭЛЯ. Яшчэ не вярнулася.

АЛЕНА (д а І г н а т а). Вось маеце тутка за прынясеньне (д а е).

ІГНАТ. Дзякую.

ДАМІЦЭЛЯ. Ці прынясьці шамавар.

АЛЕНА. Добра, мая дарагая, прынясі. Зьмерзла я трошкі. (Даміцэля выходзячы ківае пальцам на Ігната; ён ідзе).

## Сцэна XXII.

АЛЕНА (адна). Нейкая добрая кабеціна з гэтае Лузінскае. Гэтулькі надавала мне парадаў, каб сьцерагчыся кавалераў, што сапраўды родная маці не магла-б ляпей. Здаецца мне, што пражыву тут сабе спакойна, пакуль ня скончу курсаў. Стаіць пяніна — мушу спрабаваць які мае голас. Рэчы пасьля дастану... (садзіцца й ўдарае некулькі акордаў).

## Сцэна XXIII.

**Алена й Станіслаў** (з глыбіні).

СТАНІСЛАЎ (на старане). О!

АЛЕНА (ўстаючы да сябе). Зусім добры тон.

СТАНІСЛАЎ (кланяецца). Мая пашана пані дабрадзейцы.

АЛЕНА. Ах! Вітаю пана.

СТАНІСЛАЎ. Я... (падносіць галаву, на старане). О! На Эскуляпа! Прыгожая як анёлак.

АЛЕНА (на старане). Такі малады ды прыгожы... (голасна). Прашу пана, калі ласка... (паказвае на крэсла).

СТАНІСЛАЎ. Дзякую пані (садзіцца). Пані музыкальная, як я чуў.

АЛЕНА. Але, я вельмі люблю музыку. Гэта адзіны прадмет, каторы цяпер мяне займае.

СТАНІСЛАЎ (на старане). Нічога дзіўнага, пры гэткім старым мужу (голасна). І не абрыдае пані ніколі ўсьцяж гэтак выйграваць полькі, вальцы, мазуры?

АЛЕНА. Гэтыя вельмі мала граю. Пераважна займаюць мяне паважныя творы... Шопэн, Ліст, Бэтховэн, Мацарт.

СТАНІСЛАЎ. Дык пані гэтак закахана ў музыцы, як жонка ў мужу пасьля двух тыдняў па шлюбе?

АЛЕНА. Здаецца не заўсёды гэтак бывае. Я асабіста цяпер кахаю толькі музыку.

### Сцэна XXIV.

**Тыя-ж і Даміцэля (з самаварам).**

ДАМІЦЭЛЯ. Прашу паню, шамавар ёсьць, толькі чукру не магу знайсьці.

АЛЕНА. Я памагу табе шукаць (да Станіслава). Перапрашаю пана на хвілінку.

СТАНІСЛАЎ. О! Калі ласка! (Алена выходзіць).

ДАМІЦЭЛЯ (ідучы за ёю, на старане). Го! Го! Гэтая паненка такшама мае свайго Ігнача. А прыгожы хлапчук!

### Сцэна XXV.

СТАНІСЛАЎ (адзін). На Эскуляпа! Ніколі я не спадзяваўся, каб гэткае цудоўнае стварэньне магло мець гэткага старога, брыдкага мужа. Бедная! Пэўне стары мае грошы, а яна без маёнтку, як кожны звычайны сьмяротнік, вось дапрыкладу я! Ой, кабеты! Чаго толькі вы ня робіце дзеля гэтае подлае прыманкі! Зьмяніліся часы... (пяе). „Ня так in illo tempore бывала, пане дабрадзею, даўны мой суседзе“...

Але, але! Але-ж прыгожая, дык прыгожая! Прачуваю, што ў будучыне я буду мець з гэным старым авантуру, бо калі пабуду даўжэй, дык напэўна закахаюся ў ёй. Гэта ўжо такое маё шчасьце. Колькі разоў на дарозе свайго жыцьця я спатыкаў якую небудзь прыгожую кабету— ані абмахнуўся!.. эбо замужняя, або найменш—нарачоная. Дальбог, ніколі яшчэ я ня меў выпадку закахацца ў дзяўчыне. І канчай тут студы, калі ля цябе жыве гэткі цуд у пастаці прыгожае, маладое жонкі старога мужа, каторы пэўне зьдзекуецца над ёю і мучыць сцэнамі зайздрасьці.—Якжа, іначай ня можа быць!—Дзіўлюся толькі, што гэны стары аддаў мне ў наймы гэты пакой. Мог-жа-ж ведаць, або лепш, прачуваць, што я маю ў жылах кроў, а не ваду. Урэшце, я хлапец нічога сабе і прыгожы... (станавіцца перад люстрам і папраўляе вусы).

### Сцэна XXVI.

**Станіслаў. — Алена.**

АЛЕНА (уваходзячы, на старане). Го! Перад люстрам пан дабрадзей! (голасна). Перапрашаю пана, што змусіла яго гэтак доўга на сябе чакаць.

СТАНІСЛАЎ (адварочваецца). О! калі ласка.

АЛЕНА. Гэта новая служанка, каторая добра, а лепш— зусім ня ведае дзе чаго шукаць. Прыйшла ледзь перад поўгадзінай.

СТАНІСЛАЎ. Са служанкамі пані часта маюць вялікі клопат і няпрыемнасьці.

АЛЕНА. Але — трэба доўга шукаць і перабіраць пакуль на добрую ня трапіш (кліча). Даміцэлька, дай-жа хутчэй гарбату.

## Сцэна XXVII.

ДАМІЦЭЛЯ (уваходзячы). Зараж, ужо нясу. Ці і філіжанкі даць дзьве?

АЛЕНА. Ну, ведама (да Станіслава). Пан нап'ецца са мною гарбаткі?

СТАНІСЛАЎ. З мілаю ахвотай.

АЛЕНА. У таварыстве хутчэй нам час пройдзе.

СТАНІСЛАЎ. Асабліва мне будзе вельмі прыемна бачыць перад сабою чароўную істоту як пані й чуць яе сярэбраны галасок (на старане). Ой, ой, ой, разагнаўся.

АЛЕНА. Толькі вельмі прашу — без камплімэнтаў (да Даміцэлі). Прынясі філіжанкі.

ДАМІЦЭЛЯ. Мігам (выходзіць).

## Сцэна XXVIII.

### Алена і Станіслаў.

АЛЕНА. Перад хвілінай сказаў мне пан камплімэнт, за які я павінна гневацца.

СТАНІСЛАЎ. Прашу паню, гэта зусім ня быў камплімэнт! Я шчыры і кажу заўсёды тое, што думаю, нічога ня ўтайваючы.

АЛЕНА. Хай-жа пан сядае.—Шчырасьць і адкрытасьць, праўду кажучы, добрыя прыметы, але не заўсёды можна казаць голасна тое, што думаецца.. паціху.

СТАНІСЛАЎ. Пры занятках, якія маю і пры варунках, у якіх знаходжуся і жыву—нічога дзіўнага, што ўгледзіўшы перад сабою анела ў пастаці пані, праз мае губы выйшлі на сьвет словы захопленьня

АЛЕНА (на старане). Бедны! Мае гэткую старую жонку! І навошта ён жаніўся?

СТАНІСЛАЎ (з пачуцьцём). Аблічча пані робіць на мяне дзіўнае ўражэньне.

АЛЕНА. Староўка забараняю пану гаварыць са мною гэткім спосабам.

СТАНІСЛАЎ. Я зусім змоўкну.

АЛЕНА. Гэтага ізноў не хачу.

СТАНІСЛАЎ. Ну, дык буду казаць тое, аб чым ня думаю.

АЛЕНА. Гэта таксама кепска.

СТАНІСЛАЎ. Дык як-жа тут парадзіць, каб здаволіць паню і сябе.?

АЛЕНА. Найлепш будзе, калі зьвернем гутарку на іншы прадмет.

СТАНІСЛАЎ. Га, спрабую.

## Сцэна XXIX.

### Ты-яж і Даміцэля

ДАМІЦЭЛЯ (з тацаю). Прашу паню, ужо нясу ўсё.

АЛЕНА. Пастаў тут на стале.

ДАМІЦЭЛЯ (ставіць). Ужо ёсьць.

АЛЕНА. Можаш ісьці.

ДАМІЦЭЛЯ. Ужо пані нічога ня трэба прынясьці?

АЛЕНА. Тымчасам нічога (налівае гарбату).

ДАМІЦЭЛЯ (на старане). Гэты ложак пэўне сяньня не паштаўлю (выходзіць).

## Сцэна XXX.

### Алена і Станіслаў.

АЛЕНА. Магу пану служыць? (Падае яму).

СТАНІСЛАЎ. Вельмі дзякую (на старане). Якія пекныя ручкі.

АЛЕНА. Толькі асьцярожна! Хай пан не папарыцца. Гарбата гарачая.

СТАНІСЛАУ. Дзякую за перасьцярогу. Мне здаецца аднак, што больш паляць тыя дзьве зоркі, каторымі паня паслугуецца замест вачэй.

АЛЕНА. Які пан неакуратны, мы меліся зьмяніць тэму гутаркі.

СТАНІСЛАЎ. Праўда, забыўся і перапрашаю. Як я гляджу на паню, дык забываюся ня толькі аб прырачэньні, але аб цэлым сьвеце.

АЛЕНА. Калі пан хаця яшчэ адно слоўца гэтак скажа, змоўкну і не скажу аніводнага слова.

СТАНІСЛАЎ. Гэта было-б мне надта цяжкай карай.

АЛЕНА (праз хвілю). Што-ж пан робіць? чым пан займаецца?

СТАНІСЛАЎ. Мае заняткі не належаць да сьцягу вельмі прыемных. Я мэдык і пасьвяціўся спэцыяльна хірургіі. Год таму назад я мусіў перарваць навуку, бо, прызнаюся пані аткрыта, не хапіла мне капіталу.

АЛЕНА. Гэта вельмі прыкра страціць цэлы год.

СТАНІСЛАЎ. Не нярэчу.—Але цяпер маё матар'яльнае становішча прыметна палепшала і ў гэтым годзе маю надзею атрымаць ступень доктара.

АЛЕНА (на старане). Ажаніўся з вяковаю асобай, бо мела пэўне грошы. Бедны! Свабоду пасьвяціў дзеля навукі.

СТАНІСЛАЎ. Што пані кажа? Я добра не зразумеў.

АЛЕНА. З усяго сэрца жычу пану ўдачы.

СТАНІСЛАЎ. Дзякую пані, але апрача таго, што асягну мэту, да якое йду ўсею сілаю, мне ня хопіць аднак аднае рэчы.

АЛЕНА. Напрыклад?

СТАНІСЛАЎ. Але ведаеце пані, гэтага ніколі ў жыцьці ня буду мець.

АЛЕНА. Чаму?

СТАНІСЛАЎ. Радзіўся я пад нешчасьліваю зоркаю.

АЛЕНА. Вельмі мне пана шкада (Станіслаў зьнімае самавар са стала на зямлю). Што пан робіць?

СТАНІСЛАЎ. Зьнімаю перашкоду.

АЛЕНА. Ці-ж самавар перашкаджаў пану?

СТАНІСЛАЎ. Але, перашкаджае мне глядзець на вас.

АЛЕНА. Ужо забыўся пан аб прырачэньні?

СТАНІСЛАЎ. Ці я што кепскае сказаў?

АЛЕНА (пасьля паўзы). Ці пан любіць музыку?

СТАНІСЛАЎ. Страшэнна—і шкадую, што сам ня граю.

АЛЕНА. Заграю пану якую-небудзь вясёлую полечку.

СТАНІСЛАЎ. Калі паня зробіць гэную ласку...

АЛЕНА (сядаючы да пяніна, на старане). Чаму гэта яго жонкі гэтак доўга не відаць? (Грае нейкую сумную мэлёдыю).

СТАНІСЛАЎ (на старане). Сумная музыка, бо сумна мусіць у яе душы. Як-жа мне яе сардэшна шкада (голасна). Перапрашаю вас, што перарываю. Ці гэта мае быць полечка?

АЛЕНА. Выбачайце, выбайчаце! Забылася! Зараз вам заграю.

СТАНІСЛАЎ. О не! Грай паня далей гэную думку. Гіну за думкамі—асабліва калі граюцца цудоўна, з гэткай сілай пачуцьця.

АЛЕНА (устаючы). Ізноў кампліманэт!—Пан любіць аткрытасьць, праўда?

СТАНІСЛАЎ. Меў гонар аб гэтым вас паведаміць.

АЛЕНА. Буду з вамі шчырая. Я вельмі ўмарылася і хачу спаць.

СТАНІСЛАЎ. Але-ж, калі ласка, няхай сабе паня ня цэрамоніцца. Я прынамсі не перашкаджаю. Я рады споўніць кожнае жаданьне пані.

АЛЕНА (кланяецца). Ну, дык бывайце здаровы.

СТАНІСЛАЎ (таксама). Спакойнай ночы жадаю пані. (Глядзяць адзін на аднаго моўчкі).

АЛЕНА. Здаецца мне, што мы разьвіталіся.

СТАНІСЛАЎ. І я гэтак думаю.

АЛЕНА. Ну, дык...

СТАНІСЛАЎ. Я не затрымліваю вас.

АЛЕНА. Як гэта не затрымліваю?

СТАНІСЛАЎ. Пакідаю пані вольны праход да яе пакою, каторы пэўне там знаходзіцца... (паказвае на адны дзьверы).

АЛЕНА. Пан хіба мыляецца.

СТАНІСЛАЎ. Ну, дык значыць... там... (паказвае другія дзьверы).

АЛЕНА Але-ж ня ў тым справа. Пан з мяне жартуеш, а я зусім на гэта не заслужыла.

СТАНІСЛАЎ. Жартую?—Не разумею вас.

АЛЕНА. Я наняла гэты пакой, а ня той.

СТАНІСЛАЎ. Цяпер пані з мяне жартуе. Гэта я наняў гэты пакой.

АЛЕНА. Што пан кажаш? Дзьве гадзіны назад я наняла гэты пакой ад панскае жонкі.

СТАНІСЛАЎ. Вольныя жарты! Не пазьней, як паўтары гадзіны назад, я наняў гэты пакой ад мужа пані.

АЛЕНА. Але-ж я ня маю мужа.

СТАНІСЛАЎ. Гэта немагчыма! Паня мусіш мець мужа! Гэта ўжо такое маё шчасьце.

АЛЕНА. Чаму я мушу мець мужа?

СТАНІСЛАЎ. Бо паня прыгожая, харошая, цудоўная істота.

АЛЕНА. Стыдна вам, мой пане! Гаворыш паненкам гэткія рэчы, каторых пану, як жанатаму гаварыць ня выпадае.

СТАНІСЛАЎ. Але-ж, прашу паню, я нежанаты. Паня ёсьць замужняя.

АЛЕНА (да сябе). Мой Божа, што я зраблю? Ён пэўне трохі дурнаваты, а гэтак разумна гаварыў.

СТАНІСЛАЎ (на старане). Зараз пераканаемся (голасна). Ці паня баіцца трупіх галоў чалавечых, касьцей і іншых анатомічных прэпаратаў, ці не?

АЛЕНА. Не магу на гэта глядзець.

СТАНІСЛАЎ. Ну, дык вы і ёсьць жонкай пана Лузінскага.

АЛЕНА. Скуль гэтая думка прыйшла вам да галавы? Што пан кажаш?

СТАНІСЛАЎ. Шчырую праўду.

АЛЕНА. Пераканаю пана, што ня ёсьць гэтак. Ці вы любіце граць на більлярдзе—ў нейкую там пірамідку?

СТАНІСЛАЎ. Вельмі люблю.

АЛЕНА. Ну, дык пан ёсьць мужам пані Лузінскае. Яна мне казала аб гэтай панскай палкасьці (страсьці).

СТАНІСЛАЎ. Мая жонка?... Што я пачну няшчасны?

АЛЕНА. Ідзі пан да сябе спаць і мне дай таксама супачыць.

СТАНІСЛАЎ. Але-ж я ў сябе знаходжуся.

АЛЕНА. Пане Лузінскі, прашу пана.

СТАНІСЛАЎ. Я ніякі Лузінскі. Я Станіслаў Касьцінскі.

АЛЕНА. Не жартуй пан з мяне.

СТАНІСЛАЎ. Не жартую. Гатоў я нават паказаць пані свае легітымацыйныя паперы... Але... зараз! Служанка - ж мусіць ведаць сваё панства.

АЛЕНА. Ведама, што знае. Хадзем да яе.

СТАНІСЛАЎ. Яна хіба скажа, хто ў тым дому пан, а хто паня... (выходзяць налева).

### Сцэна XXXI.

(За сцэнаю чутны галасы ўмоўліваючых Барбары і Лузінскага. Праз хвілю ўваходзяць абое).

ЛУЗІНСКІ. А я табе кажу...

БАРБАРА. Не разумею, як ты можаш да гэтае пары граць у гэтую праклятую пірамідку

ЛУЗІНСКІ. Яшчэ ня гэтак позна. Я хацеў гэтаму Пірамідовічу канешна ўсадзіць некалькі партыяў.

БАРБАРА. Вечна той Пірамідовіч.

ЛУЗІНСКІ. Слаўны партнёр. Каб ты ня прыйшла, дык пэўне-б я яго абыграў.

БАРБАРА. Ты і абыграў! Гэтак сама мне добра!

ЛУЗІНСКІ. Кажу табе, крояў да сяродка з пад банды як яшчэ ніколі і ўжо рабіў duble да рогу.

БАРБАРА. Ці табе ня стыдна — маем кватарантку, а ты...

ЛУЗІНСКІ. Кватаранта, пэўне хацела сказаць.

БАРБАРА. Кватарантку кажу табе, вельмі прыемную.

ЛУЗІНСКІ. Кватаранта—паўтараю. Бася, ці ты часам не таго? (Паказвае на лоб).

## Сцэна XXXII.

**Тыя-ж і Станіслаў** (у б я г а е).

СТАНІСЛАЎ. Не! Гэтая Даміцэля хіба мяне да Баніфратраў загоніць. Кажа мне, што я пан дому, ну й гавары тут з ёю! (У г л е д з і ў ш ы Л у з і н с к а г а). Ах! Добра, што пан ёсьць тутака.

БАРБАРА. А гэта што!

ЛУЗІНСКІ. Чаму пан гэткі ўзбураны?

СТАНІСЛАЎ. Як тут ня быць узбураным, калі панская жонка хоча гвалтам мяне адгэтуль выкінуць.

ЛУЗІНСКІ. Што пан кажаш?

СТАНІСЛАЎ. Кажа, што гэта не я наняў гэны пакой.

ЛУЗІНСКІ. Гэта немагчыма.

СТАНІСЛАЎ. Аднак-жа гэтак ёсьць. Я падазраваю панскую жонку што... як-бы гэта сказаць... церпіць на мэлянхолію.

ЛУЗІНСКІ. Ага! ага! Мне гэта так здаецца.

БАРБАРА (п а д ы х о д з і ц ь). Што гэта ўсё значыць?

ЛУЗІНСКІ (х а в а е ц ц а з а С т а н і с л а в а). Толькі ня падыходзь да мяне!

СТАНІСЛАЎ (н а с т а р а н е). Няўжо-ж і гэны дурнаваты?

## Сцэна XXXIII.

АЛЕНА. Ах! Гэта-ж страх! Дом вар'ятаў.

БАРБАРА. Што тут зрабілася?

АЛЕНА. Прашу паню забраць адсюль мужа, бо ён сам ня хоча выйсьці.

БАРБАРА. Прaнук, што-ж ты нарабіў? А хадзі-ж да мяне.

АЛЕНА (д а С т а н і с л а в а). Бачыш пан, Францішак пана па іменьні.

СТАНІСЛАЎ (п а д ы х о д з і ц ь д а я е). Пані, на міласьць Боскую...

ЛУЗІНСКІ. Пане, не адходзь ад мяне.

БАРБАРА. Пранук, ідзі-ж да мяне.

СТАНІСЛАЎ. Скажы мне пан, з каторaю з гэтых паняў вы жанаты? Ці з гэтай, ці з той?

ЛУЗІНСКІ (п а к а з в а е Б а р б а р у). Гэта мая жонка. Рэкамандую. Толькі здалёк ад яе, мой пане.

БАРБАРА (п р ы б л і ж а е ц ц а). Пранук, бойся Бога

ЛУЗІНСКІ. Калі ласка здалёк! (Х а в а е ц ц а з а с т о л).

АЛЕНА (п а к а з в а е н а С т а н і с л а в а). Дык гэта ня муж пані?

БАРБАРА. Але-ж не!

АЛЕНА. А каму паня аддала ў наймы гэны пакой мне, ці гэтаму пану?

БАРБАРА. Ведама, што пані.

ЛУЗІНСКІ (на старане). Што яна пляце? Ўжо па ёй!

АЛЕНА (да Станіслава). Дык якім правам пан тут са мною сядзеў! О! Стыдайся пан! Гэта брыдка, гэта нячэсна з панскага боку.

СТАНІСЛАЎ. Прашу паню, я наняў гэны пакой. Пан Лузінскі гэта пацьвердзіць.

ЛУЗІНСКІ. А ведама-ж! Я ўзяў нават дзесяць рублёў задатку.

БАРБАРА. Толькі цяпер разумею. Прасьвятлілася ў маёй галаве.

ЛУЗІНСКІ. Дык ужо можна прыйсьці да цябе?

БАРБАРА. Хадзі,—ты стары сафандула

ЛУЗІНСКІ. Ня ведаў я. Бо-ж ты мне аб гэтым нічога не казала.

СТАНІСЛАЎ (сьмяецца). Ха, ха, ха! Кожны з панства аддаў у наймы гэны пакой на ўласну руку!

ЛУЗІНСКІ. Ну, нібы гэтак, але што-ж гэта цяпер будзе?

АЛЕНА. Адзін з нас мусіць уступіць.

СТАНІСЛАЎ. Гэта роля прыподае мне.

ЛУЗІНСКІ (на старане). А, каб цябе ліха, гэта кэпска! Я ўжо прайграў з задатку тры рублі.

СТАНІСЛАЎ (да Алены). Вельмі перапрашаю паню, але—як паня чуе—не мая віна.

АЛЕНА. Зрабіліся мы ахвярамі абмылкі, у выніку якое прыняла пана за гаспадара.

СТАНІСЛАЎ. А а я паню за гаспадыню... (гавораць паціху).

ЛУЗІНСКІ (на старане, да Барбары). Мая Бася, дай мне тры рублі, бо мушу гэтаму пану аддаць дзесяць.

БАРБАРА. Ізноў тры рублі прайграў? А мой Божа адзіны!...

ЛУЗІНСКІ. Цішэй, бо пачуюць, але бачыш гэты Пірамідовіч... Дай мне тры рублі. Як выйграю, дык аддам табе. Не магу-ж я рабіць сябе блазнам.

БАРБАРА. Гэта мне ўсё роўна. Няхай табе аддасьць Пірамідовіч. Ідзі да яго.

СТАНІСЛАЎ. Затым бывайце здаровы, панна Алена.

ЛУЗІНСКІ. Што гэта? Пан адходзіш?

СТАНІСЛАЎ. А спадзяюся. Тут-жа-ж не магу застацца.

ЛУЗІНСКІ. Нібы гэта і праўда... (на старане) я зраблю з сябе блазна.

БАРБАРА. Вельмі перапрашаю пана за памылку майго мужа.

СТАНІСЛАЎ. О! ня варта аб тым гаварыць. Я за гэта яму нават удзячны.

ЛУЗІНСКІ (на старане). Ага! Маю! (голасна). Ласкавы пане, тут насупроціў ёсьць пакой у наймы.

СТАНІСЛАЎ. Насупроціў? А гэта дужа добра!

ЛУЗІНСКІ. Зараз яго закажу для пана (хоча йсьці).

СТАНІСЛАЎ. Хай-жа-ж пан ня турбуецца.

ЛУЗІНСКІ. Я вінны гэта пану. Сам пайду (на старане). Выбраўся.

СТАНІСЛАЎ. Ну, калі гэтак, дык пойдзем разам.

БАРБАРА. Але ці пан на нас ня гневаецца?

СТАНІСЛАЎ. Што за пытаньне! Прашу нават аб дазвол прыходзіць да панства.

БАРБАРА. Ахвотна! Просім!

ЛУЗІНСКІ. З панскіх адведзінаў мы будзем усе задаволены і як мне здаецца... ня вылучаючы нікога... (глядзіць на Алену) праўда, прашу паню?

АЛЕНА. Мне гэтак здаецца.

СТАНІСЛАЎ. Ці дазволіць мне паня часам паслухаць музыкі?

АЛЕНА. Дазваляю, але пад варункам, што камплімэнты пан пакіне для каго-небудзь іншага.

СТАНІСЛАЎ. Буду казаць толькі тое, што аб пані думаю.

БАРБАРА (на старане). Маладзенькія сабе паўпадалі ў вока. О! каб што з гэтага вышла.

ЛУЗІНСКІ (да Станіслава на старане). Як я бачу, каханы Эскуляпе, маеш замер зрабіць партыю ад штосу?

СТАНІСЛАЎ. Маеш пан добрае вока. Мусіш дужа добра граць у пірамідку?

ЛУЗІНСКІ. Чорта там. Каб ня той Пірамідовіч... (махае рукою).

БАРБАРА. Ізноў той Пірамідовіч і йзноў кікс?

ЛУЗІНСКІ. Хэээ! Кажаш, мая Бася, што я заўсёды кіксую, а вось тут (паказвае на Алену і Станіслава), з майго кіксу будзе партыя на пэўна...

Канец.

---

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# Чорт і Баба

ЖАРТ У І АКЦЕ.

(Паводле народнай казкі).




На экзэмпляры з ранейшага выданньня напісана:
Widziano w Starostwie Mołodeczańskim.
Dnia 26/1 1927 r.
Starosta, (подпіс нячытальны).

# ЧОРТ І БАБА.

## АСОБЫ:

МІКІТА—малады селянін.

МАРЫСЬКА—яго жонка.

БАБА—суседка.

ЧОРТ.

**Сялянская хата. Як заслона адчынілася, на сцэне нікога німашака. Пасьля з падпечы вылазіць Чорт.**

### З ь я в а І.

ЧОРТ. Вось дык бяда! Варочацца ні з чым да пекла— сорам, дый Люцыпар прагоніць вон...

Жывуць у хаце тэй Мікіта с жонкай Марыськай. Як я ні стараюся іх пазвадзіць, пасварыць — нічога не магу парадзіць, ніпто не памагае! Жывуць у згодзе, моў два галубкі. Вось так-рок я закватэраваўся тут, у падпечку, так-рок Мікіта ажаніўся з Марыськай... Гэта-ж ужо часу шмат! Пара-бы ім хоць раз палаяцца, як сьлед, пара, каб мужык хоць раз дый жонку сваю аддубасіў. Іншы дык ужо на другі дзень пасьля шлюбу схваце за косы і лупню добрую задае, каб, значыцца, прагнаць усялякую дур, а той і ні думае! Жывуць у згодзе, цалуюцца, быццым учора спазналіся. А, каб іх маланка! Вось дык мука, даліпантачкі! Бывае, што так замаруся, што ледзь дыхаю. То ей нашэптываю на мужыка ўсякай брахні, то яму набрашу на жонку,— нічога не памагае, і слухаць ня хочуць! Фу! І сьмех, і стыд — няма як глянуць чартам у вочы: сьмяюцца ўсе... Што мне рабіць? На плач зьбіраецца ўжо (в ы ц і р а е х в а с т о м в о ч ы). Вось паганы лёс, каб яго ня знаць! Ах цяжка чартом быць на сьвеці!.. (С л у х а е).

Псс! Нехта ідзе! Ідуць да хаты! Ну, калі іх ні пасвару, прыдзецца хіба павесіцца на сухой асіне!.. Трэба хавацца зноў пад печ! (У л а з і ц ь п а д п е ч). Ох, горкая доля мая!

### З ь я в а II.

**Мікіта і Марыська** (у х о д з ю ц ь), пасьля **Чорт.**

МІКІТА. Людзі брэшуць... Кажуць: на сьвеці блага жыць. Усе злыя, сварацца, звадзяцца... Чаго? Далібог, не разумею! Вось, бачыш, я з табой, Марыська, жывём у згодзі, ажно зайздруюць усе. Так-рок мы пажаніліся і праз гэны час ці адзін аднаму сказаў хаця дрэннае слова? Ці-ж няпраўда

МАРЫСЬКА. Але, Мікітка, добра нам жывецца! Я іншы раз, дык сама дзівуюся: чаму гэта мы так шчасьлівы? Ты добры для мяне, такі ты добры, што аж мне страх бярэ, каб шчасьце нашае каліколечы не папсавалася...

МІКІТА. Не папсуецца! Ніякі чорт ня здолее нас пасварыць Дый чаго? Ты, Марыська, добрая для мяне, так сама язык стрымаць умееш заўсёды; ня так, як іншыя, што мужа языком да злосьці даводзяць,—нічога насупроць ня робіш..

МАРЫСЬКА. Няхай мяне Бог сьцеражэ, каб я калікочы зрабіла, або хоць сказала нешта насупроць цябе!

МІКІТА. А мне няхай рука адсохне, калі я наважуся цябе ўдарыць!

МАРЫСЬКА (абыймае Мікіту). Мікітка!

МІКІТА. Марыська!

МАРЫСЬКА. Люблю цябе!

МІКІТА. А я цябе!

МАРЫСЬКА. Цалуй мяне!

МІКІТА. З усіх сіл!.. (Цалуюцца).

ЧОРТ (высоўвае галаву с пад печы). О! йзноў! А каб вас немач! І зрабі тут, што хочаш!..—(хаваецца).

МІКІТА. Марыська! Сягоньня еду да мястэчка. Скажы, што табе тамака купіць? Мо' хустку новую?

МАРЫСЬКА. На што гасьцінцы мне, Мікітка? Лепш сабе нешта купі.

МІКІТА. Мне нічога ня трэба!

МАРЫСЬКА. Ды не, забыўся! Люльку-ж ты сваю зламаў і другі ўжо дзень махорку курыш у паперцы.

МІКІТА. А праўда! люльку трэ' купіць... Добра, што прыпомніла. Значыцца, хустку для цябе, а для сябе люльку дый пачак махоркі.

МАРЫСЬКА. Ну, няхай ужо так...

МІКІТА. Іду, Марыська! Трэба каня перад дарогай напаіць! (Выходзіць).

### Зьява III.

**Марыська** (адна).

Трэба распаліць агонь, каб згатаваць Мікітцы есьці. Ён, бедненькі, ажно ўвечары вернецца—будзе галодны. (Дзьмухае ў попял на прыпечку). А ад якога-ж чорта ён загас! Нядаўна-ж гарачыя вуглі былі! (Шукае сярнічку). А каб-жа іх! Трэба пабегчы пазычыць... Вось трэба йшчэ прыпомніць Мікітцы, каб сярнічкаў пачак купіў у мястэчку.

### Зьява IV.

**Марыська і баба** (ўваходзіць).

БАБА. Пахвалёны...

МАРЫСЬКА. На векі.

БАБА. Ну, што чуваць, зязюлечка?

МАРЫСЬКА. Нічога, дзякаваць Богу, благога... Вось мой зьбіраецца ехаць у мястэчка і прычапіўся, што новую хустку хоча мне купіць...

БАБА. Ах, добры ён мужык! Усе дзівуюцца, уся вёска так аб ім гамоніць. Скажы, зязюлька, праўду: няўжо-ж ні разу ён цябе ня біў?

МАРЫСЬКА. Каб біць, трэба прычыну, а я ніколі нічога не раблю ня паводле яго думак.

БАБА. Ну, а як п'яны?

МАРЫСЬКА. Тады ён яшчэ лепшы.

БАБА. Дзіва, дзіва дый толькі!

МАРЫСЬКА. Выбачайце, суседка, пасядзіце крыху, я толькі зьбегаю пазычыць сярнічку, каб распаліць агонь (выходзіць).

БАБА. Добра, добра, зязюлечка!

### Зьява V.

**Баба** (адна).

Бываюць-жа на сьвеце гэткія дзівы дзіўныя: каб муж ды жонку ніколі ня біў! Гэта-ж проста сьмех! Праўда, што мой, нябошчык, мяне так сама ня біў ніколі, але гэта ўжо іншая справа: за тое-ж я яго бедненькага, добра лупцавала, ажно ня стрываў, каточак, дый узяў і памёр... Адзін раз, памятаю, схаваў ён ад мяне мяшочак збожжа і пацягнуў яго ў карчму прадаць. Спаймала я яго і як пачала качаргою дубасіць па патыліцы і па чым папала: „ах, ты валацуга ты гэтакі! Ад мяне ня ўтоішся!“... ажно людзі зьбегліся бараніць майго п'янічугу... Але каб, як тут, сваркі ніякай ніколі ў сям'і ня было-б,—першы раз чую!

### Зьява VI.

**Баба і Чорт** (вылазіць з пад печы).

БАБА. Фу, ты згінь-прападзі! А ты-ж, чорце, чаго сюды залез? А кыш! А кыш, бо зара вазьмуся за качаргу!

ЧОРТ. Выбачайце... Паслухайце мяне толькі цярпліва... Я бедны чорт.. Хачу з вамі зрабіць адну ўмову.

БАБА. Чаго хочыш, нечысьць пракляты?

ЧОРТ. Фэ! Кіньце, цётка, так брыдка лаяцца! Я-ж вам нічога благога не раблю...

БАБА. Я-б табе зрабіла, ты—касматы!

ЧОРТ. Успомніў я, што ў вас, людзей, ёсьць прыказка: дзе чорт няйме, там бабу пашле...

БАБА. Рэч вядомая: баба хітрэйшая за чорта.

ЧОРТ. Дык, цётачка, памажы мне!

БАБА. Якая я табе „цётачка“, ты паганы сморад!

ЧОРТ. Памажы!

БАБА. Чаго-ж ты хочаш?

ЧОРТ. Глянь на мяне: я высах ужо зусім, зусім ужо замарыўся, ледзь дух трымаецца ў маім чартоўскім целе. Пад прыпечкам,—вось там,—ужо год сяджу...

БАБА. Дык пачынай аб справе! Чаго трэба?

ЧОРТ. Як я ня мучуся, як не стараюся, а пасварыць іх не магу... значыцца, Мікіту з Марыськай... То ей шапчу: мужык твой п'яніца страшэнны, як дзе спаймае які грош, у карчму да Боруха нясе. Яна сьмяецца толькі, туліцца ямчэй да свайго Мікіткі і кажа: не, а не! Ня дам я веры! Мікітка мой гарэлкі не, ня п'е"... (іронічна). Але! дык з хлебам есьць!.. Яму шапчу: дурны! Дык твая жонка, як засьнеш, або з хаты выйдзеш вон, да каханка сваго зара бяжыць... А ён мне толькі плюне ў ночы і маўчыць... Ня верыць, шэльма!

БАБА. Дык чаго-ж хочаш ад мяне?

ЧОРТ. Пасварыць! Іх паспарыць!..

БАБА. Э, які шпаркі! Захацелася кабыле воцту! Сам бачыш, што справа ня лёгкая.

ЧОРТ. Я-ж не дарма...

БАБА. А што дасі?

ЧОРТ. Чаго-ж хочаш?

БАБА. Дасі мех грошы?

ЧОРТ. Добра... Дам, дам, ты толькі пасвары!.. А ці патрапіш?

БАБА. Што? каб пасварыліся? Я так зраблю, што дзед ня толькі аблае бабу, але і павалочыць за косы...

ЧОРТ. Ну, пастарайся, заплачу... Ох, першы дзень я супачыну! Дагэтуль я ні еў, ні спаў, а толькі думаў аб справе... Скажы-ж мне, калі ты гэта зробіш? Хутка?

БАБА. Калі так хочаш, дык можна нават сёньня.

ЧОРТ. Калі? калі? Каб не праспаў-бы я!

БАБА. Як плюне яна тры разы пад печ, дык вылазь і глядзі.

ЧОРТ. Ну, добра, дзякую табе... Мех грошы сёньня будзеш мецi.

БАБА. Эй, чорт, ты толькі ня скруці!

ЧОРТ. Чартоўскім гонарам клянуся! Хоць я і чорт,— свой гонар я то-ж маю!... Бывай здаровенька, бабулька!

БАБА. Бывай здароў!

### Зьява VII.

**Баба** (адна).

Што-ж!.. пасварыць ня надта трудна. У жыцьці сваім я не такія нават штукі рабіла. Чаму-ж не пасварыць, калі

чорт так пекна просіць ды мех грошай ў заплату абяцае... А мілы чорт! Шкада толькі, што чорт, а то бліжэйшае знаёмства я-бы з ім зьвяла!

### Зьява VIII.

**Баба і Марыська** (ўваходзяць).

МАРЫСЬКА. Ну, вось і я! Ледзь-ледзь я сярнічкі дастала: у чатыры хаты бегала. Ну, дзякуй вам, што пасядзелі, папілнавалі хату мне.

БАБА. Німа за што, німа за што, мая ты бедненькая!

МАРЫСЬКА. Чаго шкадуеце мяне?

БАБА. Як не шкадаваць, калі такая бедная, такая бедненькая, што аж страх!

МАРЫСЬКА (спалохаўшыся). Што кажэце? чаму?

БАБА. Ах, як не шкадаваць цябе! Вось бачу, жывеш ты з мужам у згодзе, шчасьлівы вы, здаецца, што ўсё добра, што і ня трэба лепш, а няшчасьце вісіць над бедненькай тваей галованькай, а ты й ня бачыш яго!

МАРЫСЬКА (я. в.). Кажэце-ж, не палохайце! Што? што гэта?

БАБА. А ты і ня бачыш... Ды німа дзіва! Ня бачыш, дык і ня ведаеш нічога...

МАРЫСЬКА. Ах, суседка, ня муч, кажы!

БАБА. Ці-ж ты ня бачыш, як муж твой дрэнна выглядае?

МАРЫСЬКА. А што? Няўжо-ж ён хвор?

БАБА. Ой, хвор, міленькая, ой, як хвор, так хвор, што хутка ўжо і ў дамавіну трэба будзе класьці. Ні раз я такія прыпадкі бачыла: жыве, жыве дый памрэ. Людзі нічога ня ведаюць. Адны кажуць: гаручка, іншыя яшчэ нешта выдумываюць, а я дык ведаю...

МАРЫСЬКА. Што кажаце? Мікітка мой памрэ? А што-ж яму гэтакае?

БАБА. Як што? Сухія пад барадой вырасьлі валасы.

МАРЫСЬКА. Сухія валасы? пад барадой? Дык што-ж?

БАБА. А гэта ўжо першы знак: памрэ.

МАРЫСЬКА. Няўжо-ж памрэ?

БАБА. Памрэ.

МАРЫСЬКА. Дык што рабіць?.. Скажу яму, каб да цыркульніка пайшоў, згаліў.

БАБА. А крый-жа Бог! Згубіць яго ты хочэш! Дык ён адразу на мейсцы зробіцца мярцьвяк, як скажаш яму гэта!

МАРЫСЬКА (ў роспачы). О, Божа-ж мой! Дык што-ж рабіць? Няўжо-ж ратунку няма?

БАБА. Э! які тут ратунак, калі вырасьлі пад барадой сухія валосы!

МАРЫСЬКА (*плача*). О, Божа мой, Божа мой! Ах, бедная я ўдава! Так добра ўсё было і вось зваліласяняшчасьце! Памрэ Мікіта мой, памрэ! Што-ж я адна на сьвеці рабіць буду без яго! О, бедная я сірацінка—ўдованька! О, Божанька ты мой! Што-ж мне рабіць!?

БАБА. Ды што рабіць.! Маліцца за душу грэшную, каб у чысьцу доўга ня мучылася, бо ведама, што гэтыя з сухімі валасамі так адразу да неба не пападаюць.

МАРЫСЬКА. Ах, бедная я, няшчасьлівая! Няўжо-ж нічога ня парадзімо? Мо' да дохтара трэ' звязьці яго?

БАБА. А крый-жа Божа! Доктар як убачыць сухія валасы, дык зара дасьць такое лекарство, што на другі дзень Мікіта твой памрэ... Гэта значыць, яны дохтары гэта так, каб заразы ня было.

МАРЫСЬКА. Цётачка! Суседачка! Кажэце-ж! Ці-ж вы ня ведаеце ніякага спосабу на гэта? Мо' ёсьць якое зельле такое? Га?

БАБА (*спакойна*). Ды што-ж! Спосаб ёсьць, дык трудна...

МАРЫСЬКА. Толькі кажы, я ўсё зраблю!

БАБА. А трэба, каб ты, каб, значыцца, уласная жонка, узяла нож, нагастрыла яго аб прыпек, плюнула тройчы пад печ дый выразала гэтыя сухія валасы. Тагды ўсё добра будзе: ужо не адрастуць.

МАРЫСЬКА. А як-жа-ж гэта зрабіць? Мікіта як пабачыць, што я раблю, спытаецца што гэта значыць... Яшчэ Бог ведае што падумае! Што-ж я яму скажу?

БАБА. А ты, зязюлька, зрабі гэтак: купі гарэлкі, сьпячы яешню ды й напой свайго гаспадара, а як ён ляжа і засьне, вазьмі нож ды сягоньня-ж; як я казала, і зрабі! Яны, валасы значыцца, так і стырчаць проціў шэрсьці. Ды толькі за гэтым трэ' сьпяшацца, бо як сухія валасы перарастуць ня сухія, то ўжо Мікіта твой прапаў, капут!

МАРЫСЬКА. Ах, я ўжо сама ня ведаю, як вам падзякаваць за раду, родненькая! А мая-ж ты залаценькая, няхай Бог нагараду дасьць табе за тваё добрае сэрца!

БАБА (*да сябе*). Нагараду дасьць ня Бог...

МАРЫСЬКА. Што кажэце, родненькая?

БАБА. Не... я нічога... Кажу: дай Бог, каб удалося табе вылячыць мужа.

МАРЫСЬКА. А чаму-ж не? Я ўсё зраблю, як вы казалі.

БАБА (*устае*). Ну, а мне ўжо пара... Засядзеляся. Бывай здаровенька, зязюлька, дый памятай, значыцца, як ён засьне, дык ты яго таго... Бывай!..

МАРЫСЬКА. З Богам! з Богам!.. Як вылячу Мікітку, дык ужо вам пекна падзякую.

БАБА. Німа за што! німа за што! (*выходзіць*).

## Зьява IX.

МАРЫСЬКА (адна). Ах, як добра, што суседка прыйшла і так добра мне параіла! А то, каб не яна, то я дагэгэтуль нічога ня ведала-б і марна згінуў-бы Мікітка мой, а я удавой бы засталася!.. Ну, трэба сьпяшацца... Ах, вось ізноу бяда!... Як раз учора я прадала усе яйкі і ня маю з чаго зрабіць закуску для Мікіткі. Трэба хіба пазычыць недзе у суседзяў! (выходзіць).

## Зьява X.

**Чорт** (вылазіць с пад прыпечка).

ЧОРТ. Эй, баба мяне хіба ашукала! Абяцалася іх пасварыць, а замест гэтаго пачала развадзіцца аб нейкіх сухіх валасох дый рады розныя даваць... Трэба і мне паглядзець у сябе пад барадой, ці і у мяне ні вырасьлі прыпадкам сухія валасы, а то хто ведае!? З такога гора вельмі легка могуць выпаусьці здаровыя, а вырасьці сухія... З такога гора усё магчыма!.. Гдзе-ж тут люстэрка у іх? А вось!— (Глядзіць у сябе пад барадой). А даліпан!... вось ёсьць... здаецца, што сухі... Трэба згаліць, хаця усе сьмяяцца будуць... Які-ж гэта, скажуць, чорт без барады!.. А, ізноў хавацца трэба... Эх, жыцьцё!... (хаваецца).

## Зьява XI

**Мікіта** пасьля Баба.

МІКІТА (уваходзіць). Еду ужо, Марыська! Кажы, якую хустку... (разглядаецца). Гдзе-ж яна? У хаці німа... Кудыйсь падзелася (кліча) Марыська! (пауза). Трэ' пачэкаць яе (сядае).

БАБА (праз акно). Эй гаспадар! ці ты адзін?

МІКІТА. Адзін. А што?

БАБА. А так я толькі спыталася... Паглядзела... Я зайду.

МІКІТА. Заходзьце, зрабіце ласку!

БАБА (уваходзіць, села на услончыку і голасна уздыхае). Э, хэ-хэ!..

МІКІТА. Чаго уздыхаеце, бабулька?

БАБА. (махнуўшы рукой). Лепш не пытайся!

МІКІТА. Ну, а што?

БАБА. Кажу, лепш ні пытайся, бо сам пасьля шкадаваць будзеш!

МІКІТА. Ну, і зацікавіла-ж ты мяне?... Кажы, бо даўжэй чакаць цярплівасьці ужо ня маю!

БАБА. Шкада мне цябе, Мікіта, вось што!

МІКІТА. Ну? Чаго?

БАБА. Э, лепш не казаць!

МІКІТА. А каб цябе чорт!.. Кажы, бо ўжо злосьць бярэ!

МІКІТА. Што яна?..

БАБА. Твая Марыська, жонка, значыць...

МІКІТА. Ды чорт!.. Я ведаю, што Марыська жонка!.. Ну, дык што?

БАБА. Вось любіш ты яе...

МІКІТА. Ну, ведама, люблю, бо лепшай бабы німашака хіба на ўсенькім сьвеці... Ды й яна мяне любіць...

БАБА. Яна любіць!... Хэ-хэ-хэ!..

МІКІТА. Чаго сьмяецеся? Ведаеце нешта?

БАБА. Каб ня ведаць! Усе ведаюць, уся вёска, ды толькі ты адзін сьляпы.

МІКІТА. Што брэшэш! Ты кажы мне з сэнсам!

БАБА. Каханак ёсьць...

МІКІТА. Брэшэш!

БАБА. Але... Знайшла ўжо! Ты толькі з хаты дык яна ўраз да яго...

МІКІТА. Брэшэш!

БАБА. Да душы! Каб сонца мне ня бачыць... Вось і цяпер...

МІКІТА. Брэшэш!

БАБА. Цсс! Не крычы! яшчэ скажу: яна зарэзаць цябе хоча, каб, значыцца, з каханкам без ніякіх перашкод... От-жа пабачыш, яна цябе сягоньня падпоіць, а як ты ляжаш спаць, то яна цябе зарэжа. Вось пабачыш! Як ты вернешся з мястэчка, яна паставіць на стол яешню і пляшку гарэлкі. Гэта значыцца, каб ты ўпіўся ды ня скеміў, што яна ліха замышляе. А ты толькі прыкінься быццым сьпіш, ды пабачыш, што яна будзе рабіць...

МІКІТА. Брэшэш, патаскуха!

БАБА. Вось і маю за сваё сэрца! Ах, і навошта я ўсё гэта расказала! Ды не хацела, а ён ўсё: кажы, кажы... Вось і аблаяў за маю праўду!.. Такая заўсёды на сьвеці падзяка! Эх,—эх!.. (выходзіць).

### Зьява XII.

**Мікіта** (адзін).

МІКІТА. У галаве шуміць... Ох, я здурэю! Марыська каханка мая! Марыська зарэзаць хоча! Ня можа быць!.. Мы-ж так добра жылі, я ніколі благога не сказаў ей слова... О, Божэ мой! Ня можа быць! Ня можа быць!..

### Зьява XIII.

**Мікіта і Марыська** (уваходзіць).

МАРЫСЬКА. Што? ты яшчэ не паехаў да мястэчка?

МІКІТА. А ты гэтага толькі і чакаеш!

МАРЫСЬКА. Я не чакаю... ты ня едзь... Ты думаеш' што я дзеля гэтай хусткі?

МІКІТА. Я ведаю...

МАРЫСЬКА. Ці-ж я с хаты цябе ганю?.. А і запраўды, ведаеш Мікітка, ня едзь! Вось я прынесла пляшку гарэлкі, яек дастала, сьпяку яешню... Выпьеш, закусіш, ляжаш спаць... Мікітка, добра?

МІКІТКА (да сабе). Зарэзаць хочэ... (голасна): Чорт хай бярэ ўсе хусткі дый мястэчкі!.. Не паеду!

МАРЫСЬКА. Вось і добра!

МІКІТА. Пабачымо ці добра...

МАРЫСЬКА. Што?

МІКІТА. Нічога...

МАРЫСЬКА. Чаму ты нейкі дзіўны, Мікітка? Злуешся на мяне, ці што?

МІКІТА. Не, нічагусенькі...

МАРЫСЬКА. Дык чаго?

МІКІТА. Я... я... гэта... Нешта ў сярэдзіне баліць... хвор штосьці...

МАРЫСЬКА (спалохаўшыся). Баліць? у сярэдзіне? (да сябе): Гэта мусіць з сухіх валасоў, трэба сьпяшацца!.. (да Мікіты). Вось выпі чарку—другую, тагды лепш табе будзе, а пакуль што сырам закусі (дае сыр) яешня хутка будзе гатова (налівае чарку).

МІКІТА. Давай! (Як Марыська адвярнулася, вылію чарку на падлогу і зацямкаў быццым выпіўшы яе). Фу, добра, моцная!

МАРЫСЬКА. Дык яшчэ пі, калі смачна...

МІКІТА (налівае і вылівае на падлогу, як раней). Я пью...

МАРЫСЬКА. Пі, пі, Мікітачка, ды пасілкуйся!

МІКІТА. А, гадзіна!

МАРЫСЬКА (спалохаўшыся). Ах! дзе?

МІКІТА. Не.. я так... У полі бачыў... Кіем забіў...

МАРЫСЬКА. А, сёлята шмат.

МІКІТА. О, шмат!.. (паўза. Марыська прыгатаўляе яешню). Каб цябе немач!..

МАРЫСЬКА (зьдзівіўшыся). Чаго ты?

МІКІТА. Нічога... У сярэдзіне кальнула..

МАРЫСЬКА. Кальнула? Дык ты пі, Мікітка!

МІКІТА. Я п'ю... (Вылівае, як раней).

ПАЎЗА).

МІКІТА (устае, працягіваецца, хітра-няшчыра). Спаць нешта хочацца...

МАРЫСЬКА. Спаць хочаш? Ну, дык засьні, бо зама-

рыўся ты, каточак! Вось выпі яшчэ чарку і засьні... Лепш спаць будзеш...

МІКІТА (іронічна). О, буду спаць... Праўду баба казала...

МАРЫСЬКА. Я заўсёды кажу праўду... Дык выпі і сьпі!

МІКІТА. Але... Я п'ю... (кладзецца на лаві, і пачынае моцна храпсьці, пагдядаючы ад часу да часу, што робіць Марыська).

МАРЫСЬКА (пачуўшы, што Мікіта сьпіць, падыходзіць да яго і ціха клічэ: „Мікітка“, каб пераканацца, ці ён запраўцы заснуў. Мікіта храпе і не адказывае. Тагды Марыська хапае са стала нож і хутка пачынае яго гастрыць).

МІКІТА (зірнуў і пабачыў, што Марыська робіць). А, шэльма!

МАРЫСЬКА (пачуўшы гэта). Бедненькі! Праз сон гаворыць. „Баліць, казаў, нешта ў сярэдзіне“... Гэта ўсё мусіць ад гэных паганых сухіх валосаў! Добра, што я ў пару аб ўсім даведалася, а то магла-быць бяда! (гострыць нож; паўза). Вось нож ужо, здаецца, гостры... Пара ўжо!.. (Плюнунуўшы тройчы пад печ, падыходзіць да Мікіты і граболіць у яго ў барадзе).

МІКІТА (ускаківае з лавы і пачынае яе лупіць). А! рэзаць хочэш, подлая ты душагубка! Вось я табе пакажу, хварэць твайму бацьцы ды стагнаць тваей маці, як гаспадара рэзаць!..

МАРЫСЬКА. Мікітка! дык я не... я ня тое...

МІКІТА. А! яшчэ запірацца будзеш! Вось якая ты, мая галубка! Пакуль ты мяне зарэжаш, я табе ўсе костачкі палічу, паганая!

МАРЫСЬКА. Людзі добрыя! ратуйце!.. (уцякае, Мікіта за ей гоніцца).

## Зьява XIV.

### Баба і Чорт.

ЧОРТ (высоўваецца с-пад печы).

БАБА (усунуўшы галаву праз вакно). Ну, чорт! Хутчэй, хутчэй! давай мне мех! Няўжо-ж мяне ты ашукаць хочаш?

ЧОРТ. Не, цётачка! цябе і чорт не ашукае!

БАБА. Дык давай мех! гдзе грошы?

ЧОРТ. Чакай!.. баюся я цябе!.. Я зара...

БАБА. Давай хутчэй, бо часу ня маю!

ЧОРТ (вылез на сцэну і цягне з пад печы цяжкі мех).

БАБА. Што? цяжкі? Цягні, цягні, браток!.. А то чакай! я зара ўвайду ў хату і памагу табе.

ЧОРТ (спалохаўшыся). Ня йдзі!.. не памагай!.. баюся я!..

БАБА. Чаго-ж ты, міленькі, спудзіўся?

ЧОРТ. Баюся я, каб ты і мне жыцьця не атруціла!

БАБА. Давай-жа мех!

ЧОРТ. Чакай... толькі да мяне ня йдзі! (бярэ з за печы вілы і на вілах высовывае праз вакно мех).

БАБА. Ці вага добрая? Не ашукаў! Бо ў хаці ў мяне бязьмен, я пераважу.

ЧОРТ. Вага добрая... Дый магу даць яшчэ, калі толькі споўніш маю просьбу.

БАБА. Што, яшчэ кагосьці пасварыць?

ЧОРТ. Не... Але як спаткаемся ў пеклі, нічога там ты не кажы, не набрашы там на мяне... Я бедны чорт, я цяжка на свой хлеб працую... Мей літасьць нада мной! Не пажадай жыцьця майго.

БАБА (прагавіта). А прынясеш мне яшчэ адзін мех?

ЧОРТ. Добра, я ўраз, калі мне абяцаеш...

БАБА. Але да хаты мне...

ЧОРТ (страшэнна спалохаўшыся). О, не!..

БАБА. Нікога ў мяне ня будзе!..

ЧОРТ. Ой, не! ой, не! ты ня губі мяне!

БАБА. Прыйдзі, не пашкадуеш...

ЧОРТ. Я вельмі молад... Я саромліў... Ты выбачай...

БАБА. Прыйдзі, каточак! Прыйдзі, міленькі, да мяне!

ЧОРТ. А ні зарэжаш там мяне?

БАБА. Ды што ты! Цябе там соладка я буду цалаваці... Да раніцы маім ты госьцям будзеш!

ЧОРТ. О-ей! Прапаў я, згінуў я зусім, бо баба закахалася ва мне! Хутчэй трэба да пекла ўцякаць!.. Хай лепш Люцыпар б'е, хай чэрці ўсе сьмяюцца, чымсь з гэтай бабаю кахацца! А як прыдзецца ўжо нам спаткацца на пякельным дне, смалы для яе ня буду шкадаваць дый, апрача таго, патэльню горачу лізаць прымушу там яе!.. хаваецца пад печ).

БАБА (усьміхаючыся да чорта бяззубым закахаўшымся тварам). Каточак! Пачакай! Чакай!..

(ЗАСЛОНА).

КАНЕЦ.

# Бібліатэчка для беларускага народнага тэатру.

1. Беларускі Народны Тэатр. Сцэнічныя творы. Кніжка першая: „Боты“, „Мікітаў лапаць“, „Пакой ў наймы“, „Чорт і Баба“ цана . . . . . . . . . . . 1 зл. 20 гр.
2. А. Родзевіча „Сцэнічныя творы“ („Зьбянтэжаны Саўка“, „Пасланец“, „Конскі партрэт“) . . . . . 60 гр.
3. Роз. Аўтараў „Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатру . . . . . . . . 50 „
4. К. С. „Янка Канцавы“ вясковая драма ў 5 дзеях . . . . . . . . . . 50 „
5. Я. Купала. „Раскіданае гняздо“, драма ў 5 дзеях . . . . . . . . . . . 1 зл. 20 „
6. Карусь Каганец. „У іншым шчасьці нящчасьце схавана . . . . . 20 „
7. Ул. Гутоўскі. „Сурдут і Сярмяга“-драматычны абразок . . . . . . . 70 „
8. Ф. Аляхновіч. „Шчасьлівы муж“ камэдыя ў 4 актах . . . . . . . . 75 „
9. „ „Страхі жыцьця“ драма ў 3-х актах . . . . . . . 70 „
10. „ „Птушка шчасьця“ п'еса ў 9-х актах . . . . . . . 40 „
11. „ „Пан міністар“ камэдыя ў 2-х актах . . . . . . . . 60 „
12. „ „Няскончаная драма“ п'еса ў 4-х актах . . . . . . . . 1 зл.
13. „ „Заручыны Паўлінкі“ п'еса ў 1 акце . . . . . . . . . 35 гр.
14. „ „Дрыгва“ драматычны эскіз у 6 абразох . . . . . . . . 1 зл. 50 „
15. Галубок. „Апошняе спатканьне“ драма ў 4-х актах . . . . . . . . 40 „
16. Janka Bylina. „Wybary Staršyni“ . . . . . 40 „
17. P. Sałaŭjowa. „Cudoŭnaja Noč“ dla dziaciačaha teatru . . . . . . . . . 50 „
18. А. Васілеўскі. „Дахапаліся“ . . . . . . . 30 „
19. „ „Betlejka“ sceničnaja štuka ŭ 5 zjawach . . . . . . . 50 „
20. Янка Купала. „Паўлінка“ сцэна са шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах . 70 „

Усе выжэйпаданыя кніжкі можна дастаць у Цэнтральнай **Беларускай Кнігарні Т-ва „ПАГОНЯ“.**

**ВІЛЬНЯ, Завальная № 7.**